Калі у кожным радку яе
ранай крывавай
Родныя сёлы дыміліся і гарады.
Знай, што я сам
з абгарэўшымі тымі радкамі
Быў неаднойчы ахоплен
знішчальным агнём,
Што я не толькі пісаў іх
сваімі рукамі,
Сам бараніў іх ад смерці
салдацкім штыком.
Сам бараніў іх,
але калі б мне загадалі
З песняй памерці,
ратуючы родны прастор —
Зоры Крамлёўскія,
Крымскія сінія хвалі,
Горы Валдайскія,—
я без вагання б памёр.
Вось чаму сёння,
у мірны наш дзень, пасля боя,
Рад я за песню,
што выстаяла ў барацьбе,
Але найбольш, мой патомак,
я рад за другое —
Рад, што жыццё
здабылі мы сабе і табе.
Песня мая
не красуняю-кветкай з паляны,
Песня мая пехацінцам
увойдзе ў твой дом,
Ты ёй даруй
і глыбокія шрамы і раны,
Знай, што і ім ты
сваім абавязан жыццём.
1952 г.

## БАЛАДА
## АБ ЖЫВОЙ ГАЗЕЦЕ

Як абвясціла Масква
векапомным загадам
Вынікі бітвы з фашыстамі
пад Сталінградам,
З паведамленнем,
з святочнаю весткай пра гэта
Трапіла да партызан
са сталіцы газета.

Неслі яе агітатары
ў снежныя далі,
Сэрцам сваім пад кашуляй,
як сцяг, саграваді.
Неслі праз лютую сцюжу,
праз сівер суровы,
Грэлі ім сэрцы
яе палымяныя словы.

Лесам ішла яна,
полем ішла па дарозе,
Ад паліцэйскіх штыкоў
ратавалася ў возе.
З бою выходзіла,
з чортава пекла, жывою,
Людзям жыццё яна несла,
мір несла з сабою.

Недасачылі за ёю
фашысцкія вочы,
Не захапілі пры лямпе
яе апаўночы,
Не пашматалі яе
на кавалкі рукамі...—
З днямі друкарскія літары
сцёрліся самі.

Часам зімовым
яе снегавая навала

Вырвала ў некага з рук
і з сабой паімчала.
Сцёртыя літары
снежнай завеі шрацінкі
Сцёрлі дашчэнту...
Ды рана спраўляць ёй памінкі!

Там, дзе завея
яе пахавала за плотам,
Снежнае поле
газетным лягло разваротам.
На развароце,
у выглядзе бору густога,
Сталі калонкі
артыкула перадавога.

На разварот,
як святочныя паведамленні,
З бору свайго
партызанскія выйшлі злучэнні.
Неслі яны
на бясконцую ў полі дарогу
Надрукаваную
ў сэрцах сваіх перамогу.

Не! Слоў праўдзівых
не знішчыла лютая замець —
Вусны гарачыя іх вымаўлялі
на памяць.
Іх і па сёння
з удзячнасцю свет вымаўляе,
Свет, разняволены намі,—
газета жывая.
1952 г.

## КОЖНЫ МАЕ СВОЙ БОР...

Кожны мае свой бор,
родны бор на зямлі,
Бор, дзе мары,
як гордыя сосны, раслі.

Дзе шугалі яны
ўпершыню над зямлёй
Пры начлежным агні
на паляне лясной,

Дзе будзіла зязюля іх
рана, ледзь свет,
Дзе ў далёкі, за рэхам,
плылі яны свет.

Кукаванне ў бары
ад зары да зары,
Ад зары да зары
мае сэрца ў бары.

Не паспець мне,
не ўгнацца сягоння за ім,
Нешта дзіўнае робіцца
з сэрцам маім.

Ці яно кукавання
не чула даўно?
Ці слядоў маладосці
шукае яно?

Толькі як іх знайсці?
Пастарэлі сляды,
Ды і сам я даўно
не юнак малады.

Не паробіш нічога,
мінуўся той час,
Лішніх дзён у запасе
не меў ён для нас.

Час ляцеў, як віхор,
і па гэтым бары
Бур жалезных сляды
пакідаў на кары.

Родным соснам, з якімі
тут некалі рос,
Я не скаргу прынёс
на агульны наш лес.

Я — салдат свайго часу.
З ягоных дарог
Я без метак суровых
вярнуцца не мог.

Не бяда, што не толькі
на соснах сляды,
Не бяда, не за тым
я вярнуўся сюды.

Я вярнуўся затым,
каб засведчыць усім
Вернасць марам сваім,
як жыццё, мала дым.

Вернасць марам, якія,
закутыя ў бронь,
Неслі юную праўду
сваю праз агонь;

Вернасць марам, што там,
дзе канчаецца бор,
Караблямі плывуць
у жытнёвы прастор.

Я вярнуўся ў свой бор,
што ад бур не палёг,
Каб набрацца ў ім сілы
для новых дарог.

Каб шугала далей
мая палкая кроў
Тым жа буйным агнём
маіх першых кастроў.

Каб па ўсіх акіянах
наперад плылі
Мар маіх караблі,
мар маіх караблі.

Думы, мары мае!..
Ганаруся я тым,
Што навек заўладалі
вы сэрцам маім,

Што мяне, як і ўсіх
неспакойных людзей,
Вы ўзялі ў падарожжа
вялікіх надзей,

Што ў дарозе няспыннай
з юнацкай пары
Мне ваш голас чуваць,
як сягоння ў бары.

*1954 г.*

## СТРЭЧНЫ АГОНЬ

Папераджаю цярплівых маіх чытачоў:
Гэта аповесць далёкіх трыццатых гадоў.

Гэта аповесць аб тым,
як зімою і летам
Мы вартавалі на нашых
былых рубяжах
Мірны свой дом,
Што Крэмлём узвышаўся над светам;
Як мы —
яго жыхары з комсамольскім білетам —
З клопатаў першых аб ім
пачыналі свой шлях;
Як мы выходзілі дружна
насустрач пагрозе,
Што патаемнымі сцежкамі
кралася ў дом,
Як мы адказвалі,
стрэўшы бяду на дарозе,
На нечаканы агонь яе
стрэчным агнём.
Гэта аповесць мая
пра сардэчных сяброў...
Не для забавы ім
песню складаю я гэту,
А каб праз іх перадаць яе,
як эстафету,
Пяцідзесятым гадам
ад трыццатых гадоў.
Не калыханкай бацькоў
над спакоем дзяцей
Хай гэта песня гучыць,—
а як памяць жывая
Аб той граніцы трывожнай,
што свет раздзяляе,
З гулам праходзіць па сэрцах
мільёнаў людзей.

**1**

Той каляндар адрыўны, што на сценцы ў бацькоў,
Кніга, бясспрэчна, карысная для хлапчукоў.

Могуць па ім без прыладаў падзорных як след
Знаць яны месцазнаходжанне зор і планет.

Могуць яны аб працягласці дня і начы
Летам дазнацца з яго, у паход ідучы.

Дасць на пытанне любое ён поўны адказ.
Год? Трыццаць першы. Час году? Канікулаў час.

Толькі для сталых студэнтаў, такіх, як Максім,
Той каляндар, што ў бацькоў, недарэчы зусім.

Ведае ўсё пра планеты ён з кніжак другіх:
Як іх завуць і ці ёсць атмасфера на іх.

Сам падлічыў ён, блукаючы лесам адзін,
Колькі ад ранку да вечара нудных гадзін.

Што яму новага можа сказаць каляндар?
Хіба ён знае, марудных гадзін уладар,

Што са студэнткай Марынай, як ехаў сюды,
Бачыўся ў поездзе ўчора хлапец малады;

Што ён дамовіўся з ёю сустрэцца ў бацькоў
Роўна праз тыдзень, каб разам пайсці да сяброў.

З дня таго згоды няма ў яго з календаром.
Ён, калі-б мог, не зрываў-бы лісток за лістком,

А за ўвесь тыдзень садраў-бы іх махам адным.
Але нічога! Свайго прычакае Максім:

Некалі ён занясе, як збярэ па лістку,
Іх свайму другу — соўгаснаму вартаўніку.

З дымам махорачным пусціць у неба іх дзед,

З весткамі ўсімі, што тычацца зор і планет!

Скончыцца ўлада бяздушнага календара.
Вось і апошні лісток адарваны... Пара!

Гэтая справа ў раёне гракіцы была.
Хлопец з дзяўчынаю выйшлі, нарэшце, з сяла.

Хлеба і сала з сабою ў дарогу ўзялі.
Сонца ўставала ў той дзень, каб свяціць на палі,

Роўна ў чатыры,— як сказана ў календары...
З дзён сямігодкі Максім і Марына — сябры.

Розныя ў іх інстытуты цяпер, гарады.
З дзён сямігодкі мінула чатыры гады.

Час не малы...
 І не проста цяпер ім ісці,
За гэты час стаў другім ён,
 дзяўчына другою,
Хоць і праходзіць ён з ёю
 дарогай былою,
Але праходзіць, нібы
 першы раз у жыцці.
Чэснае слова, ніколі,
 ніколі раней
Не сустракаў ён за домам бацькоўскім у полі
Гэтай юнгштурмаўкі,
 гэтых чарнявых вачэй,
Гэтай чырвонай касынкі
 не бачыў ніколі.
Ён і сябе самаго тут
 не можа пазнаць,—
Сонца віною ці, можа,
 канікулы, лета,
Хочацца песні спяваць,
 нават вершы складаць.
Што гэта значыць?..
 Ды лепей не думаць пра гэта.

Родная пушча сустрэла іх пошумам нетраў.
Плошчаю сорак на сорак якіх кіламетраў

Пушча ўвабрала ў сваю першародную веліч
Дробныя выспы пасёлкаў, поўвыспы паселішч,

Сотні дарог, што травой зараслі ды грыбамі,
Тысячы сцежак, што ў дрэвах губляюцца самі;

Безліч бароў і рачулак, што звоняць бясконца,
Цёмным куткам несучы прамяністае сонца.

Строга вартуючы нетраў сваіх таямніцы,
Цягнецца пушча да самай заходняй граніцы.

Грозная пушча! У глыб яе пойдзе не кожны
Спрактыкаваны ў дарогах лясных падарожны.

Цяжка, зблудзіўшы ў ёй, выйсці ў патрэбным кірунку.
Будаўнікі, што калісьці вялі тут чыгунку,

Не выпадкова, з тутэйшым знаёмыя краем,
Гэтак, як мора, яе абыходзілі краем.

Пушча сяброў ахінула. Звінелі вясёла
Іх галасы ў яе нетрах, як два ручайкі.
У Сілічах, за барамі — іх родная школа:
Дом старажытны і парк на ўзбярэжжы ракі.
Можа, сто год, можа, больш, як яна збудавана,
Да рэвалюцыі — ўласнасць Даўбніцкага-пана.
Не давялося ім ведаць ні пана самога,
Ані нашчадкаў-сыноў — за мяжою сыны.

Лета. Канікулаў час. Парашылі яны
Школу і парк свой наведаць, а потым — Цімоха,
Друга з Кавычач.
— З табой, як турысты зусім...
— Толькі кійкоў не хапае...
Хоць ведаў Максім,
Што павяла ў падарожжа іх прыязнь жывая,
Толькі ўвесь час непакоілася,

як ішоў,
Сэрца яго... Не забыла яно, памятае
Дружбу Марыны з Цімохам са школьных часоў.

Ён за чатыры гады не забыўся аб тым.
Думаць Максіму было і цяпер непрыемна,
Што ён за іх маладзейшы.
Яго недарэмна
Некалі ў школе яна называла малым.

Ён не крыўдуе за гэта.
Ён права не мае.
Смешна за гэта
было-б крыўдаваць на сяброў.
Мела тады яна,
запіс метрычны сцвярджае,
Роўна шаснаццаць,
Цімох — восемнаццаць гадоў.
Меў чатырнаццаць Максім.
Дык чаго тут злавацца,
Ясная справа,
спытайце разумных людзей,
Што для таго,
каб на поспех яму спадзявацца,
Трэба было, як відаць,
нарадзіцца раней.
Ды пад ласкавым праменнем
дзявочых вачэй,
Так, як пад сонцам жаданая ягада,
спее
З новай сустрэчаю
новая ў сэрцы надзея.

Рэчка лясная... Штаніну адну закасаў,
Потым другую... Па часці рачных пераправ
Спецыяліст ён. Геолаг-жа ён!
Не паспела
Ахнуць Марына, як ён ужо нёс яе. Смела
Брод пераходзіў, яе над вадою трымаў.
Вынес на бераг... Бывай, дарагая рачулка!
Сэрцы гарачыя іх калаціліся гулка.

Сёння пазнаць у ім цяжка падлетка былога,
Стаў ён вышэйшым, дужэйшым зрабіўся намнога.

Ён і яна не агледзеліся,
як дарога
Сцежкаю стала...
Зірнуў на гадзіннік Максім:
З часу, як выйшлі,
мінула чатыры гадзіны.
Быць-бы, па часе,
яны ўжо з Марынай павінны
У Сілічах, а не тут,
а не ў лесе глухім.
— Мы не заблудзім? —
спытала Марына.
— Нічога,
Дойдзем па сонцу!..—
Адказваў вясёла Максім.
І заблудзілі... Калі-ж,
сярод лесу глухога,
Жытняе поле
нарэшце адкрылася ім,

Лета, якое слякотным было і сухім,
Нашых сяброў нечаканасцю новай спаткала:
З захаду раптам
на лес наляцела навала,
Кінула з хмары на дол
бліскавіцу і гром,
Пад яліну пад густую
загнала дажджом.
Жыта, якое шумела
за той яліною,
Вецер хістаў у бакі,
прыгінаў да зямлі.
З пырскамі кропляў да ног іх
адна за адною
Жытнія хвалі, як хвалі марскія, плылі.
Часта і гулка,
пад елкі густым парасонам,
Біліся разам іх сэрцы...

Па гуку, па тону
Можна было зразумець,
што прычына — не гром,
Не бліскавіца, з яе нечаканым агнём.
Некалькі раз сустракаліся —
што за прыкмета? —
Позіркі іхнія ў змроку
старой яліны.
Што гэта значыць?..
Ды лепей не думаць пра гэта.
Перачакалі пад елкай грымоту яны.
Дождж адшумеў па бярэзніку, па дубняку,

Ціха зрабілася ў лесе... — Паслухай!
Пачулі
Музыку пушчаў, трывожнае ў нетрах ку-ку,
Голас нібы за кардон заляцеўшай зязюлі.
Што ім казаў яе голас? Аб долі якой?
Можа аб долі цяжкой,
што за панскай мяжой?
Можа, зблудзіўшы,
тужыў ён аб краі сваім,
Пушчы і сэрцы злучаючы рэхам адным?
Выйшлі з трывогай на сцежку
з-пад цёмнае кроны.
Хмары прайшлі.
Непатрэбен густы парасон.
Жыта ды лес... А куды ім падацца?

Законы
Мае суровыя
іх пагранічны раён.
Хоць і з дзяўчынай ідзеш
да сяброў гасцяваць,
Вока і вуха павінен
ты востра трымаць.
А заблудзіўся, тым больш
непакойся аб тым,
Як-бы не трапіць
у іншыя госці зусім.
Добра, як скончыцца

шлях твой з дзяўчынай шчаслiва,
Як затрымагоць свае
на мяжы... А як не?..
Рада была-б
шампаламi тады дэфензiва
Выпалiць зорку
такому гасцю на спiне.

Заначавалi ў пустым
Адзiнокiм гумне.

---

Летняя ночка каротка.
Прачнулiся рана.
Ды не прачнулiся,
Крык разбудзiў нечакана:
— Гэй, уставайце, шаноўныя!
Каля варот
Людзi стаялi. Са стрэльбамi.
Што за народ?..

— Хто вы?
— Студэнты.
— Мы збiлiся ўчора з дарогi.
— Вось як! Куды-ж вы iшлi?
— У сяло Сiлiчы.
Пераглянулiся людзi.
— Загнулi нiчога!
Гак не маленькi,
Кiлометраў дзесяць лiчы.
— Трэба спытаць пашпарты ў iх.
— Навошта. Не след.
Пашпарт для iх падрабiць —
Не вялiкi сакрэт.
— Я разумею — хлапец,
А пры чым тут яна?

— Дзiўна пытаеш.
А ты не глядзi, што спаднiца.
Можа быць гэта знарок:
Маскiроўка адна.

— Гляньце, значкі комсамольскія!
— Што тут дзівіцца...
— Правільна, годзе!
— Дзе след разбяруцца...
— Вяжы!

Нашых сяброў на адну
Пасадзілі фурманку.
Дзядзька, што вёз іх,
Трымаў нагатове бярданку.
Хто гэты дзядзька?
Куды іх вязе? Да мяжы?
Лес — ён як лес:
Асаблівых не мае прыкмет.

Полем павёз іх:
Убачылі трактара след...
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вось яна, тая граніца
са светам старым,
Вось ён і свет той відаць —
за слупом межавым.

Толькі граніцу
ўяўлялі яны не такой.
Ім уяўлялася іншаю
там, за мяжой,
Нават прырода...

А тут — як было не дзівіцца! —
Яр, якіх шмат,
а па ім — працякала
крыніца,
Ціха каменьчыкі мыла...
І гэта — граніца?
Так. Не зважай, што табе
за тым ярам відна,
Як і па гэты, па наш бок,
такая-ж сасна,
Хоць і адна ў іх пастаць,

хоць адна ў іх парода,
Доля ў іх розная.
Розная, як і ў народа...
Там — над мяжой палыноваю
чахне сасна,
Тут — заарала нядаўна
ўсе межы вясна
Новага свету —
вясна трыццаць першага года.
Колькі-ж зазнае яшчэ
завірух на пуці
Наша вясна,
колькі будзе змагацца з зімою,
Покуль здалее
са сцягам сваім перайсці
Гэты маленькі ручай,
каб шумець і цвісці
Збожжам бяскоыцым
за той недалёкай сасною?

Гэта — граніца. Глядзела Марына маўкліва.
Блізкасць двух светаў кранала яе асабліва.

Некалі ў бежанства гнала Марыну навала
З той стараны, што цяпер перад ёю ляжала.

Там яе маці радзіла ў хаціне вясковай,
Тут яе маці згубіла часінай суровай.

Там яе звалі Алесяй тры леты, здаецца,
Тут яна поўных семнаццаць Марынай завецца.

Добрыя людзі знайшлі яе грознай парою,
Хлебам сваім на ўвесь час падзяліліся з ёю.

З прозвішчам новым далі і імя ёй другое,
Каб не азмрочвала шчасця няшчасце былое.

Закукавала зязюля
за блізкай мяжою...
Закукавала... І думка за слуп паласаты

Птушкай ляціць да пакрыўджанай доляю хаты

На той парог... дзе дагэтуль, у курнай хацінцы,
Горкая памяць жыве аб прапаўшай дзяўчынцы;

На той парог невядомы, дзе маці старая
Імем ранейшым дагэтуль дачку называе;

На той парог, што схаваны за лесам, за гаем,
Думка ляціць над усім заняволеным краем,—

Гэта кукуе яна за слупом межавым,
Пушчы і сэрцы злучаючы рэхам адным.

**2**

Зноў па моры бясконцым,
Што шумела пад сонцам,
Дзядзька вёз іх назад.

Ды не вёз, а ўсё далей
Ад мяжы іх адносіла
Жытняю хваляй.
Дзядзька вёз іх, расказваў
Пад шум каласоў:
— Гэтай ноччу мяжу
Дыверсант перайшоў...

— Многа ловяць іх тут?
— Ловяць столькі якраз,
Колькі іх праз мяжу
Засылаюць да нас.
Вы — студэнты, я чуў ?
— Так... Ідзем да сяброў.
Да студэнтаў-сяброў,
Што цяпер у бацькоў.
Самі знаеце: лета,
Канікулаў час.
— Гэта праўда... А многа
Знаёмых у вас?
— А нямала,
Уся наша школа, лічы.

— А цяпер вы куды?
— У сяло Сілічы.
— А адтуль?
— А наведаем школьны парог,
У Кавычачы пойдзем.
Там — друг наш, Цімох.
Прыгароўскі Цімох —
Будучы інжынер.
Жыў яшчэ там Сцяпан...
Толькі дзе ён цяпер?
З млынароў ён, цураўся
Сумленных дарог...
— Ну, а вы хто?
— Геолаг.
— А яна?
— Педагог.
. . . . . . . . . . . . . . . . .

З дзядзькам яны
          развіталіся ў полі даўно.
Крочаць у госці. Заставы
          ужо не відно,
Але граніца
          нябачнай сваёй каляінай
Побач віецца ўвесь час
          праз палі, праз кусты;
То прападае, то зноў,
          варухнуўшы галінай,
У пешаходаў пытае
          яна пашпарты.
Жыта ў палях аглядае,
          у лузе — пракосы,
Дыхаюць ёй, як паветрам,
          зямля і нябёсы,
Кожная хата стаіць
          у маўклівым дазоры,
Кожная зорка з вышынь
          азірае prasторы,
А баявого заставаю —
          кожны калгас...
Сцежкай глухой

парушальнік ішоў у той час,
Хто ён? Напэўна, тутэйшы.
Ён ведаў мясціны.
Два карабіны ён нёс.
Для чаго карабіны?
Меў ён задание якое?
Пабачыцца з кім
Трэба яму?
Асцярожна па лесе сухім
Ноччу ішоў.
Днём хаваўся ў кустах ад людзей.
Быў ён у лапці абуты,
ісці ў іх мякчэй.
З самай граніцы
сляды пасыпаў тытунём,
Каб уцячы ад аўчарак.
Заўважылі днём,
Пэўна, яго пастушкі.
Не мінуў ён аблавы.
Шчасце яго,
Што далёка было да заставы,
Што акружылі той лес
не байцы з аўчарамі,
А комсамольцы мясцовыя
з драбавікамі.
Страху хапіла;
не знаў, дзе яму ратавацца.
Лес падпаліць?
За агнём і за дымам схавацца?
З хворастам яму заўважыў
пад цёмнай ялінай.
Аж да начы праляжаў ён
у яме ваўчынай,
Дробна зубамі секунды
пад хворастам лічачы.

Цудам дасяг ён
мясцовасці роднай — Кавычачы,
Перадыхнуў там у лесе,
схаваў карабіны,
А як сцямнела, уброд ён,

раку перайшоў
Каля калгаснага,
некалі ўласнага, млына.
Дом над ракою знаёмы,
да дома сцяжына.
Што ў гэтым доме —
у доме ягоных бацькоў?
Бацькі і маткі няма там.
Ён міма прайшоў.

———

За сялом — шыр палёў,
Лес. Лясная дарога.
Дом пры лесе — ўсяго
Поўвярсты да парога,—
Вось той самы
Прыпынак яго, да якога
Ён ішоў...

Доўга ў змроку
Чакаў ля гумна.
Вось пачуліся
Лёгкія крокі... Яна!
Ён адразу пазнаў.
Маладая жанчына
З поля сцежкаю бегла дадому.
— Паліна?
— Хто тут?
— Ты не палохайся:
Я... Не пазнала?
— Ты? Адкуль ты?
— У госці прыехаў. З Урала.
— Што там робіш?
— Працую там.
— Іншае штосьці
Муж казаў мне,
Пра іншыя нейкія госці.
— Глупства. Кінь.
Дома муж твой?
— Забралі ў астрог.
— Ты адна?

— Мужаў брат са мной дома... Цімох.
— На канікулах?..
— Так.
— Я й забыўся аб тым.
— Вы-ж у школе калісьці
Вучыліся з ім.
— Ну, а што з тваім мужам,
Са Змітраком? —
Ён-жа быў актывістам,
Бядняк-бедняком.
— Кантрабанду знайшлі ў нас,
У гэтым гумне.
Хтось падкінуў... Хто?
Часам, не знаеш ты?
— Не.
— Можа знаеш?..
— Ты што так глядзіш на мяне?

Ад ракі, з балацін напаўзлі туманы,
Дрэвы ў іх патанулі па грудзі.

Ад гумна адышліся ў зацішак яны,
Каб не чулі, не бачылі людзі.
— Я прыехаў сюды за табой, за дачкой,
Што жыве ў маім сэрцы заўсёды,
Зразумей... На Урал мы паедзем з табой,
А якія там горы, прырода!
Я-ж кахаю цябе, дарагая!
— Кінь, Сцяпан... Гэта песня старая.
— Але родная песня, як наша любоў.
— Памаўчы лепш, Сцяпан. Як успомню я, зноў
Стыне кроў... Мне было восемнаццаць гадоў,
Калі я нарадзіла дачку.
Ты павёў мяне ў дом да багатых бацькоў,
Пасядзела на кухні ў кутку
З дзіцем я — не пусцілі ў святліцу бацькі.
Ну а ты? Нас пакінуў, не іх.
Млын табе даражэй быў ад роднай дачкі.
Што-ж цяпер табе трэба? Якіх
Новых песень? Даволі старых з мяне. Лес
Нада мной паглуміўся нямала.

Мне хапала ўсяго: ганьбы, горычы, слёз,
Можа, тольвд крмві не хапала,
— Ты тады Змітрака пакахала.
— Памаўчы... Хіба мне да кахання было?
Жыщь у час той было мне няміла.
Як у бубен, пра сорам мой біла сяло.
Выйсці замуж мяне ўгаварыла
Маці, цётка... Спакою тады, цішыні
Я хацела сабе... І Змітрок дзень пры дні
Угаворваў,— хоць ведаў, што я не магла
Пакахаць яго,— з ім падавацца з сяла
Жыць на хутар: «Прывыкнеш, развееш тугу
Сярод лесу, за працай у полі...»
Ды і думала я, што ўжо больш не змагу
Палюбіць анікога, ніколі.
Лепш забудзем. Забудзем усё, што было;
Што калісьці было,
Бур'яном парасло...
— Твой Змітрок — у турме.
Жыць адной, што ў ярме...
— Абяцаў адвакат —
Мужа вернуць з-за крат.
— А не вернуць?.. Зноў замуж не выйдзеш, дальбог.
— Не бядуй... Свісну раз на парозе,
Хлопцы з саду пасыплюцца, быццам гарох,
Толькі крокі збірай на дарозе.
Вось што... Ты нас пакінь: і мяне і дачку...

Але ён не пакінуў іх. Па дубняку
Ён туляўся, па ельніку. Ноччу і днём
Пільнаваў іх у жыце, чакаў за гумном,
Каля дома ў густым канаплянні сцярог.
Бачыў ён, як з Палінаю разам Цімох
Луг касіў, як і шла яна з ім пад руку,
Як сядзела з Цімохам яна ў халадку,
Як абедала з ім яна ў зацені груш...
Хто ён, брат яе мужа, ці, можа быць, муж?

За Палінай сачыў... Вось, нарэшце, яна
Без Цімоха... Ідзе каля прасла, адна.

Канаплянне. Стаіўся ён. Ціхі закут.
Зараз з ёй пагаворыць Сцяпан,,. Але тут
Ён заўважыў людзей. Ён пачуў галасы.
У кустах мільганулі дзве цёмных касы,
З лесу выйшла дзяўчына. Чырвонай касынкай,
Як агнём, паласнула яму па вачах.
За дзяўчынай хлапец крочыў той-жа сцяжынкай.
Ён глядзеў на іх, сціснуўшы фінку ў руках.

Холад сэрца скаваў, цяжка дыхалі грудзі.
З ім у школе вучыліся гэтыя людзі —
Неспакойныя госці: Марына, Максім...
Размаўлялі... Аб чым? Аб усім. Аб сваім.
Лета ў іх — для канікул, сустрэч мала дых.
А ў яго? Для чаго? Для спатканняў якіх?..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— А Сцяпан дзе? — Сцяпан? —
Валацуга, ды й годзе! —
Кажуць, падаўся туды ён,
Дзе сонца заходзіць,
Служыць панам...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гаварылі аб ім між сабою,
Як аб далёкім, чужым,
І не зналі аб тым,
Што ў гэты час ён
За праслам, а не за мяжою,
У канаплянні хаваецца
Цёмным, густым,
Чуе і бачыць іх...
          Хоць і парушыў нядаўна
Лінію ён межавую
          граніцы дзяржаўнай,
Хоць і ляжыць тут
          ад пільных укрыты вачэй,
Не перайшоў ён мяжы,
          што яго ад людзей
Рысай нябачнай,
          заслонам глухім аддзяляе,

Што не па лесе кіруецца,
          а па жыцці,
Не дазваляе да прасла
          яму падысці,
Пераступіць праз парог яму
          не дазваляе...
Гэтай граніцы
          ніяк яму не перайсці.

**3**

З часу, як мы ка дарозе пакінулі іх,
Колькі згубіў каляндар наш лісткоў адрыўных?

Хто іх лічыў!.. Не лічылі, вядома, яны. —-
Дома застаўся ў бацькоў каляндар адрыўны.

Як закаханыя людзі на час не зважаюць,
Так падарожныя календароў не чытаюць.

У Сілічах пабылі і пайшлі з Сілічоў
Шляхам яны, не падобным да іншых шляхоў,

Шляхам, які ад звычайных адрозніш дарог,
Што для гасцей, што для іх спецыяльна пралёг;

Шляхам-гасцінцам, які не заблудзіць нідзе,
Сам, па бярозах сваіх, куды след прывядзе.

Пасля шумлівых дарог,
          з іх жыццём баявым,
Арак і хат,
          упрыгожаных дзеразою,

Месца, дзе жыў іх таварыш,
          сваёй цішынёю
Ім нагадала граніцу
          са светам старым.

Гэткі-ж ручай. А за ім
          яны ўбачылі дом,
Дом хутарскі,

фарбаваныя аканіцы.
Пасля чытальняў і клубаў
з шумлівым жыццём
Здаўся ён домам забытым —
па той бок граніцы.

Ціхі ручай перайшлі
Неспакойныя госці.
Дом, як нардом, захадзіў
Ад буйной весялосці.

Па прапанове Марыны,
У гонар спаткання,
Быў там суботнік абвешчаны
Пасля снядання.

Хлопцам — піла і сякера,
І — дровы пілiце.
А для яе з гаспадыняй —
Зажынкі у жыце.

Покуль калоды пілілі
Цімох і Максім,
Покуль калолі іх там,
На двары хутарскім,
Жнеі абуліся ў лапці,
Абралі пастаці...

Роўныя ў росце,
Падобныя ў рухах і стаці.
Твары і плечы,
І рукі іх — колеру збожжа.

Бліснулі разам сярпы.
Хто каго пераможа?
Хто пераможа?..
Не жалі яны, а гралі,
Жыта высокае
Пальцамі перабіралі.

Роўна ішлі яны.

Жаць для іх — не ў навіну.
Вось і зажалі. Зірнулі
Адна на адну,
Ветла ўсміхнуліся:
Будзем, нарэшце, знаёмы!..

Рваліся ў жыта сярпы іх,
Не чуючы стомы.

— Хопіць!..— сказала Паліна,—
Ішлі нараўне.
— Ты нездаволена?
— Гэта не цешыць мяне.
От каб на ніве тваёй
Заняла я пастаць,
Каб на жніве тым
Магла ад цябе не адстаць.
Дзе там!.. Мінуцца
Студэнцкіх канікулаў дні,
Вас на крывенькім сярпе,
Паспрабуй, дагані.
Хіба дагоніш?
— А можна, —
Марына ў адказ.
— Як гэта?
— Ты праз ручай
Падавайся да нас,
Пераязджай, пакідай
Паплавы ды кусты.
Не на сярпе, на камбайне
Дагоніш тады.

Скончана дружная праца.
У зборы брыгада.
Чаркай абносіць
Прыйшоўшых з суботніка хата.
Дом пазабыты, калі ў ім
З'явіліся госці,
Зноў захадзіў, як нардом,
Ад буйной весялосці.
Пэўна, такога ніколі

Не сніў ён і ў сне.

Эй, гармонік, даволі
Вісець на сцяне!
Заіграй-жа, Цімох,
Заіграй весялей!
Болей пар на кругу,
Чым у доме людзей:
То з Марынай Максім,
То з Максімам Паліна,
То з Палінай Максім,
То з Максімам Марына,
Гарманіст, кракавяк!
Гарманіст, гапака!
Скача з лялькай-дачкою
Паліны дачка.
Круг шырэй, за акном
Скача дуб з яліною,
Круг шырэй, круг шырэй,
Скача поле з ракою!

У Цімоха і ў госці ягонай Марыны
Ёсць для новай сустрэчы старыя прычыны.

Ёсць старыя прычыны для новай размовы,
Зоры гэта пасведчаць нам лепей, чым словы.

Зоры свецяць ім так-жа сягоння над лесам,
Як даўней над расцвіўшым за школаю бэзам.

Мы, зазначу, здзіўляцца таму не павінны,
Што жывуць гэтак доўга старыя прычыны.

Сотні год над зямлёй зоры свецяць у згодзе,
А для сэрцаў і год, іншы раз, як стагоддзе.

А праз некалькі год крыўдна, горка прыкмеціць,
Што ўжо так, як раней, сэрца сэрцу не свеціць.

Ён сказаў ёй, што хоча кідаць інстытут,
Быць яму земляробам: на хутары, тут.

З ім,— казаў ён, — гуляць нецікава цяпер:
Не студэнт ён, не будучы інжынер.

Ды і сам ён, — хай гэта не крыўдзіць гасцей, —
Як той лапаць, павінен трымацца лапцей.

А чаму так рашыў, па прычыне якой, —
Ведаць ёй нецікава. Не скажа ён ёй.

Што-ж пытаць?.. Хіба мала на гэта прычын,
Тут, на хутары хоць-бы... дзе ён — не адзін?

Можа тая прычына, з сярпом у руках,
Сёння жыта з ёй жала ў тых самых лапцях?

Што-ж, — Марына яму, — лапаць боту не пара,
Гэта праўда. Быць лапцем! Чым гэта не мара?

Стаўшы лапцем, трымайся, як лапаць, лапцей:
Разам з імі на печ, разам з імі ў музей.

Да цябе, — засмяялася госця вясёла, —
На экскурсіі будзе хадзіць наша школа.

Дзе, — пытаць будзе, — вучань былы мой Цімох,
Ці ўжо згніў, ці яшчэ топча лыкамі мох?..

На гулянку другі раз пайшла яна з ім,
Ён у клеці гарэлкі глынуў перад тым.

Ідучы з ёй, пра школу згадаў ён, пра бэз,
Смела госцю абняў, цалавацца палез.

Не скажу, што ў адказ атрымаў гаспадар,
Каб ізноў не змушаць чырванець яго твар.

Ён, з гўлянкі прыйшоўшы, маўчаў, як сцяна.
А яна?.. Не пайшла з ім у хату яна.

Засталася ў бары... Чым вакол Не сябры:

Рэчка, сена стажок, месяц, зоры ўгары.

Адшукаў яе ў лузе парою начной
Каля рэчкі Максім. Побач сеў. — Што з табой?

На каленях: касынка, дзве цёмных касы.
Ад туману вільготныя, ці ад расы?
Ці яшчэ ад чаго?..

Запытала ў яго:
— Ці не час нам дамоў?..
Колькі разам шляхоў
Мы схадзілі з табой!
Недарма, дружа мой:
Ёсць што ўспомніць. Ці праўда?..
— Рачулку лясную!
— Дождж у лесе...
— Ага!
— Навальніцу...
— Старую
Яліну!.. — уздыхнуў ён, — шкада, што з табой
Заўтра пойдзем назад мы дарогай другой,
Што ўжо больш не заблудзім у лесе, як пойдзем,
Яліны той, рачулкі ніколі не знойдзем.
— Як, ніколі?—спытала з сяброўскай трывогай.
— Так, не знойдзем, відаць. Новай пойдзем дарогай.

— Дойдзем, як не да той,
Да другой яліны!..
За стажком, як за елкай, стаялі яны.

Пастаялі... Пайшла яна ў дом беражком.
Ён застаўся на сене ляжаць за стажком.
Ноч вакол, лес вакол, — непакоіўся мала,
Ён ляжаў-бы пад бурай цяпер, пад дажджом,
Пад маланкай той самаю, што пранізала
Змрок старой яліны незабыўным агнём.
Ён ляжаў... Ціхім жалем сціскаліся грудзі.
Не забудзе ніколі ён, не, не забудзе, —
Хоць і пойдзе з дзяўчынай дарогай другой, —
Яліны дарагой, пушчы той, буры той,

Светлай буры сваёй, што ў душы не сціхае.
Свет дрымотай ахутала ціша нямая.
Толькі ён не драмаў, ён ды зоры ўтары,
Ён ды месяц над ім.
Закувала ў бары
Над ракой пасвятлеўшай зязюля начная.
Колькі ранняя птушка налічыць гадоў,
Столькі птушкай спявань будзе ў сэрцы любоў.
Ён заснуў... А зязюля лічыла, лічыла...
Туманом яго рэчка, як коўдрай, акрыла.

---

Кніга карысная той каляндар адрыўны,
Што красамоўна глядзеў на гасцей са сцяны.

Ім гаварыў адарваны Палінай лісток,
Што не звычайны пачаўся сягоння дзянёк.

З гэтай пары для зязюль, што спявалі ў бары,
Дні галасістыя злічаны ў календары.

З раніцы гэтай, абвешчанай новым лістком,
Час надышоў, што завецца гарачым жнівом.

Што-ж, у дарогу, Марына! Дадому, Максім!
На дапамогу бацькам і калгасам сваім!..

Слаўна гулялі, цяпер папрацуйце як след.
Выйшаў на ганак Максім за Цімохам услед.

Горка Цімоху. Аб чым так задумаўся ён?..
Выйшла Марына... З Палінай яна абнялася
На развітанне.
Ручай перайшлі, як кардон.
Крыкнула з-за ручая:
— Да спаткання ў калгасе!..

Да спаткання ў калгасе!.. Глядзеў са сцяны
На Цімоха з тугой каляндар адрыўны.

Не хаваў-бы сакрэтаў сваіх ад гасцей,

Можа-б стала, таварыш, на сэрцы лягчэй.

Брат Змітрок у турме, хіба гэта сакрэт?
Ты-б усё расказаў, растлумачыў як след.

Змоўклі песні, з дакорам глядзіць каляндар:
Што ты хочаш цяпер ад мяне, гаспадар?..

Не хаваў-бы сакрэтаў сваіх ды прычын,
Не сядзеў-бы тады ты ўсё лета адзін...
Твой-бы горкі настрой адлістаў я даўно,
А цяпер адзіноце канца не відно.

Госці з дому пайшлі... Дзень мінае, другі,
Трэці дзень з таго часу мінае.
Ні Цімох, што душою заныў ад тугі,
Ні Паліна спакою не мае.

На дарогу хлапец паглядае з акна.
Рвецца думкамі з цеснае хаты.

Не глядзіць на Паліну, нібыта яна,
Альбо ён перад ёй, вінаваты.

А Паліна? Заўважыў ён — з лесу прыйшла
У трывожным настроі з дачкою.
А пад вечар малую ў сяло адвяла,
Ходзіць бледная... Што гэта з ёю?

Павячэралі. Выйшаў на ганак Цімох.
А Паліна? Таксама. Пазбыцца трывог
Цяжка ў хаце маўклівай, пустой.
Села побач з ім. Што гэта з ёй?
Што яе засмучала? Што думку гняло?
Ён не ведаў...

— Ты сёння хадзіла ў сяло?
— Так, хадзіла.
— Пакінула ў маці дачку.
Не гаворыш — чаму ?

Сыч гукнуў у ляску.
Раз, другі раз. Устала.
— Спакою няма.
— Ты не ўсё мне гаворыш, Паліна.
Ты куды?
— Трэба мне. Не пытайся дарма.
— Да каго?
— Да таго, з кім павінна
Я сустрэцца.

Хуспінку — на галаву
І пайшла са двара... І за домам,
Як казала, сам бачыў Цімох, на яву,
Сустракалася з кімсь невядомым.

**4**

Як Сцяпан уцякаў у той край, дзе паны,
Думаў жыць за панамі, як пан... Ды яны,

Хоць і стрэлі яго, як свайго, не далі
Ні надзейнае службы яму, ні зямлі.

Так сказалі, прывёўшы назад да мяжы:
— Там застаўся твой млын, ты яму і служы.

Будзеш верна служыць, абяцаем вярнуць
Млын табе, а не хочаш — адно не забудзь,

Што цябе мы — яны не лічыліся з ім, —
Пад канвоем заставе совецкай здадзім.

Даў ён згоду пайсці, не задумваўся ён,
Шляхам тым, на якім, што ні куст, то заслон,

Лесам тым, у якім ён патайна, ў свой час,
Кантрабанду хаваў разам з бацькам не раз.

А цяпер? Перайшоў па загаду кар дон.
Што тут робіць? Чаго тут бадзяецца ён?

Хутар гэты абраў незнарок ці знарок?

Сапраўды,— кут глухі, у астрозе Змітрок...

Сапраўды, можа знаў ён аб гэтым раней,
Ці здагадваўся? Месца не знойдзеш зручней.

Можа ўбачыць Паліну хацеў ці дачку?..
Падсцярог ён нарэшце іх у дубняку.
Сэрца маці, напэўна, крануў ён слязой,
Успамінам расчуліў, — яна
З ім сустрэцца згадзілася... З ёй над ракой
Размаўляў ён амаль да відна.

— Ты дарэмна злуешся. Не вінен я ў тым,
Што асуджаны муж твой... Не вінен зусім.
А што ўцёк я адгэтуль?
Прычына — бацькі:
Каб не ўцёк я —
Саслалі-б на Салаўкі.
— А цяпер?..
— Маю пашпарт, прапісан як след.
Я паказваў табе.
— Што-ж, схадзі ў сельсовет,
Заявіся... Усё яны высветляць...
— Не.
Заяўлюся: адразу-ж пад варту мяне,
Покуль суд, перасуд той —
За краты...
Хіба-ж я, аж з Урала, ляцеў-бы сюды,
Кэлі-б быў хоць у чым вінаваты?
Пойдзем разам, Паліна.
— Куды?
— Хоць куды...
Жыць без любае годзе мне, годзе!
— На якім ты працуеш заводзе,
Што не кажаш?.. Не хочаш ісці ў сельсовет,
Мне не верыш, баішся... Чаго?
Не дурная з табою я ехаць за свет,
Што я ўкрала, забіла каго,
Ці пакрыўдзіла?.. Просьба твая не кране
Сэрца матчына... Я не паеду.
Гэта ты разам з бацькам пакрыўдзіў мяне,

З ім цяпер і цягайся па свету.
Ты-ж бацькоў дзеля нас не пакінуў тады,
Млын табе даражэй быў... Ну што-ж,
У спакоі цяпер нас пакінь назаўжды,
Ні дачку, ні мяне не трывож.
Каб любіла і то-б, з-за дачкі з-за свае,
Я за бацькам такім не пайшла.
— Дзе яна? Ад мяне ты хаваеш яе,
У сяло адвяла?.
— Адвяла.
Знаць не хочам цябе, чуць не хочам імя.
Разышлася з дарогай дарога:
Ты — дзяцюк халасты, а ў мяне тут — сям'я,
Муж...
— За кратамі муж твой.
— Нічога,
Абяцаў адвакат —
Муж мой выйдзе з-за крат.
— Ты калісьці кахала мяне.
— Што калісьці было —
За вадою сплыло.
— І ніколі не вернецца?
— Не.
— Што-ж, трывожыць пакіну я вас... Уступлю.
— Не пакінеш: пайду ў сельсовет, заяўлю...
— Пачакай заяўляць. Не спяшайся.
— Чаму?
— Пабяжыш — на дарозе ў бары перайму,
Пачакай.
— Не трывож мяне, чуеш? Ідзі
Ты дарогай сваёй, я — сваёй.
Паміж імі — граніца. Яе перайсці
Ні яму немагчыма, ні ёй.

---

Ледзьве радасць Цімох перанёс праз парог:
Брат Змітрок неўзабаве пакіне астрог,
Напісаў дарагі,
Каб пяклі пірагі,
Дня чакалі таго...
Апраўдалі яго.

...На світанні, пакінуўшы хутар, Цімох
Крочыў сцежкай лясною, дзе верас ды мох.
Так ляцеў — толькі вецер свісцеў па баках.
Заўтра дзень кірмашовы ў сяле Сілічах,
Там, ён ведае гэта, збяруцца сябры...

Прагным вухам лавіў, днём не чутны ў бары
Працы гул на далёкім арцельным двары.

Пакідаў адзіноту сваю, цішыню,
Як той ветразь, што ў мора плыве ўпершыню,

Што жадае ўцячы ад маўклівай тугі
На шырокі прастор, свет пабачыць другі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Бор. Сасновыя шаты.
          Ды верас. Ды мох.
Чалавек барадаты.
          Цяпельца. Дымок.
— Эй, куды ты, браток?.. Не спяшайся, браток!

Каля ног — торба з хлебам, дарожны кіёк.
— Што, ніяк не пазнаеш? Я — брат твой... — Змітрок!
Ты?.. — Як бачыш. — З астрогу? — З астрогу, браток.

Сеў Цімох каля брата. Не верыць вачам:
Гэта сон, ці не сон?..

— Я не веру і сам.
Не глядзі, што я чорнай зарос барадой,
Не зарос барадой, а зарос я бядой.

Не дзівіся таксама з убораў маіх, —
Гора красіць, Цімох, толькі ракаў адных.

Сам ва ўсім вінават... Сам калісьці палез,
Як у пастку, Цімох, я з Палінай у лес.

Думаў, жонка пазбудзе там ганьбу і сорам,

Думаў, там са сваім расквітаецца горам,

Сосны боль закалышуць, развеюць тугу,
Думаў, з жонкаю шчасце знайсці там змагу.

Ну, а ліха такіх і пільнуе людзей,
Ліха любіць само кут, які пазмрачней.

Вось і стала варыць так, як рака, мяне
Гора ў чорным сваім хутарскім чыгуне.

Кантрабанду не проста падкінулі, не!..
Кантрабанду прынёс і схаваў у гумне

Не абы хто—Сцяпан... На гумно к нам занёс,
Сваяка папрасіў: напісаў каб данос.

Сам-жа ўцёк за мяжу: паспрабуй дакажы,
Што не вінны, пакліч паспрабуй з-за мяжы.

Правакацыя, брат... Помсціў мне за бацькоў,
За дарогу, якую да Салаўкоў

Паказалі мы ім... Помсціў жонцы маёй.
Эх, і шкода, што ўцёк ён, што ён за мяжой!

Я злавіў-бы яго, млынара, за руку,
Я яму паказаў-бы, чым мелюць муку.

Сам судзіў-бы яго, сам павёў-бы ў турму,
Сам у лесе асіну знайшоў-бы яму.

Каб не ўцёк — у яго змог-бы ўсё распытаць,
Як ды што... —Ен не ўцёк, на Урале— чуваць.
Мне Паліна казала...

            Цімох замаўчаў.
— Ну, а Поля, як Поля? —
            Змітрок запытаў.
— Хтось туляецца,
            хтось паглядае з-за дрэў

На твой дом... Сярод ночы...

Змітрок пабялеў.
Вочы бліснулі ярка,
як два вугалі,
Сам нібы на вуглях,
ён падскочыў з зямлі:
— Можа тут гэты гад?!
— Не прыкмеціў я, брат...

— Можа тут? Я прыкмечу...
Жалезны капкан
Я пастаўлю яму.
Пачакай-жа, Сцяпан!..

Торба з хлебам
ужо на кійку за спіной.
Затаптаў ён цяпельца,
прысыпаў зямлёй.
— Суха ў лесе, — сказаў, —
Не дагледзіш — пажар.
Тут цяпер не астрожнік я,
А гаспадар.
Ты сабраўся куды?
— Я ішоў да сяброў.
Ды, як бачу я, трэба
Вяртацца дамоў,
Раз такая сустрэча.
— Не трэба. Не час.
Са Сцяпанам — рахункі
Не скончаны ў нас.

———

Да Паліны Змітрок
не паказваўся днём.
Як сцямнела — сядзеў
гаспадар за сталом.
Як сказаў адвакат—
Муж вярнуўся назад.

Падавала Паліна

Вячэру яму...
Расказаў — праз каго
Трапіў ён у турму.
— Эх, злавіць-бы падлюгу,
Даставіць у суд.
Дзе ён, можа быць, чула?..
— Туляецца тут.
— Што ён хоча?
— Прыехаў, гаворыць, за мной,
За дачкой... Я зусім
Свой згубіла спакой.
— Заявіла-б і ўсё.
— Гэта лёгка сказаць:
Абяцаў на дарозе ў бары пераняць.
Чую: сочыць за намі
І ноччу і днём.
Заяві, а ён дом
Ноччу пусціць з агнём.
Калачуся, маўчу,
Нібы мыш у мяшку.
Добра, ты вось прыйшоў...

Сыч гукнуў у ляску.

— Гэта ён. Чуеш, свішча?
— Я свісну яму.
На дарозе яго
Сам пайду перайму!
— Што ты, кінь, не заводзься.
Устаў з-за стала.
— Я пайду, ты — чакай,
Не запальвай святла.

---

Той начы, калі месяц з-за лесу ўставаў,
Сустракаўся Сцяпан з тым, з кім стрэчы чакаў
— Пан Даўбніцкі? —Цішэй...
Ты — не хлоп, я — не пан,
Я — Сямёнаў Пятрусь,
Помніць трэба, Сцяпан.
— Выбачайце, даруйце мне,

Пан капітан...
— Я — таварыш Сямёнаў...
Даўно з-за мяжы?
— Ды даўно ўжо чакаю.
— Што чутна, кажы?..
— Глуш, сычы...
— Тут сядзеў?
— Уначы ў Сілічы
Я хадзіў.
— Што рабіў?
— Бачыў школу — ваш дом.
Дзве калгасныя фермы
Пусціў там з агнём.
— Знаю гэта. — Адкуль?
— Я таксама быў там...
Неразумна зрабіў, —
Ваяваць трэба нам,
Каб вярнуцца ў свой дом,
Не агнём, а мячом.
Ну, а тут — не чапаў?
— Тут — спакой: воўк і той
Не чапае авец
Бліз бярлогі сваёй.
— Як малодка? Як хутар?
— Ды так сабе, так...
Не дамовіўся з ёю,
Не выйшла ніяк.
— Быў-бы хутар яе
Добрай яўкай, аднак.
— Я чакаў, не прыйшла сёння...
— Чуў я твой свіст.
Свішчаш ладне!.. Хто муж яе?
— Муж? Актывіст
Быў калісьці... У знак! нам
Даўся-такі —
Камітэтчык!.. Яго
Не забудуць бацькі
Там, за тундрай... Жаніўся —
Стаў менш баявым.
Ды не доўга падыхаў
Спакоем лясным

Ён з маладкай сваёй...
Цішыню і спакой
Хутка я яму даў
За астрожнай сцяной.
Закурылі на беразе
соннай ракі —
Засвяціліся
па рукавах аганькі.

— Так... Гаворыш, не ўдаўся
Любоўны паход.
Што яшчэ?
— Ёсць загад мне
Падацца на ўсход.
Прабівацца, загад ёсць,
Ажно на Урал.
— Адмяняю загад.
Там — няшчасце... Правал.
Там правал.
Але важныя весткі — пры мне
І паперы, якія
Патрэбны вайне.
Пойдзеш разам са мною
Назад за кардон.
— Эх, таварыш Сямёнаў,
Што куст — то заслон.
Колькі зораў блішчыць —
Столькі сочыць вачэй.
Эх, праз гэтае пекла
Хадзіць-бы радзей.
— Цыц, шчанё... Колькі год табе?
— Мне? Дваццаць пяць.
— Можа быць, для спакою
Цукерачку даць?
Зброя ёсць?
— Карабіны. Схаваў пад карчом.
Адкапаць загадаеце?
— Заўтра ідзём.

Падлічылі: калі
кіравацца напрост —

Да граніцы не меней,
          чым сорак вёрст.
Заўтра дзень кірмашовы
          ў сяле Сілічах,
Дзень выгодны: Ілья,
          шмат людзей на шляхах,
Хто ідзе, а хто едзе
          на захад, на ўсход.
Самы раз гэткім днём
          ім пачаць свой паход.
Парашылі як след
          адпачыць уначы,
А ледзь свет
          падавацца на Сілічы.
На гадзінніку — роўна дванаццаць гадзін,
Вось з дрымотных прастораў начных
Шум данесла рака... — Што за шум? — Гэта млын,
Што ў бацькоў адабралі маіх.
Прагным вухам Сцяпан прыпадаў да трысця:
Шум далёка чуваць па вадзе,
Шум старога млына, шум былога жыцця,
Што цяпер нямаведама дзе.
Слухаў ён, сам з сабой размаўляў, як п'яны:
«Я вярнуся на гэту зямлю.
Пасяку ўсе сады, папалю ўсе млыны,
Хаты чорным агнём спапялю...»
Так шаптаў ён пад шум, што даходзіў здалёк.
Працаваў, не сціхаючы, млын.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Той начы зноў дадому з явіўся Змітрок
Непрыкметна ў дванаццаць гадзін.

...Растлумачыў каротка, што трапіў на след
Дыверсантаў, знайшоў іх бярлогу.
Загадаў, каб Паліна ішла ў сельсовет
Падымаць баявую трывогу.

Каб сказала, што хочуць бандыты ўцячы,
Што трымаюць свой шлях на сяло Сілічы,

Дзе з'язджаецца заўтра народ на кірмаш.
Сам-жа. стрэльбу старую дастаў, патранташ,

Браў дранкулі, якія даўно для ваўкоў
Спецыяльна хаваў. Ежы ўзяў і пайшоў
З дому ў лес.

Блізкай дзічы
Учуяўшы пах,
Ён, нібы паляўнічы,
Пайшоў па слядах.

**5**

Рух кірмашовы
пачаўся ў сяло Сілічы
З першай паловы
перадкірмашовай начы.
Грукатам кол
ён пачаўся, рыпеннем вазоў
З вёсак далёкіх ды сёл,
ды глухіх хутароў.

Ноч паступова
дрымотай ахутала шлях.
Рух прыпыніўся часова
на палявых бальшаках.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Як мінула, прайшла
Ноч, са ўсіх бальшакоў палявых
Дым папоўз да сяла
З неастыўшых стаянак начных.

То курыўся з-пад колаў,
Як дым уначы з-пад галля,
Пыл... як-быццам наўкола
Сухая гарэла зямля.

Быццам гэта праз поле
Агонь пакаціўся адтуль,
А не яркае полымя

Хустак, сукенак, кашуль.

Яркі дзень кірмашовы!
Я ў сэрцы твой гул берагу.
Памятаю, не раз
твой шумлівы прыход на шляху
Сустракаў я ў свой час...
у той жніўеньскі дзень, што ні
Усім выпускам школьным
збіраліся мы, як на злёт.

Я наведаў кірмаш
у нядаўнія, нашы, часы.
Там з падводамі побач
стаялі на плошчы ЗІСы,
Прадавалі ў палатках
арцельны тавар ганчары,
А ў ларках садаводы —
калгаснага лета дары.
Прыслухоўваўся там да дзядзькоў,
да кабет, як ішоў,
Ды ў радах кірмашовых
ранейшых не чуў я размоў
Пра таго дзецюка,
што ў кагосьці сцягнуў гусака,
Пра ваўка, што з двара
звёў за вуха у лес парсюка,
Пра няшчасную маці,
якую прагнала дачка...
Я наведаў кірмаш...
Дзе мае дарагія сябры?
А ці, можа, забыўся ўжо
звычай юнацкай пары?
Час у тым вінават,
а ці справы, якіх у нас шмат?
Не сваіх, а другіх
там убачыў хлапцоў і дзяўчат.
З пачуццём трапяткім,
нібы ўслед за юнацтвам сваім,
Крок у крок я за імі ішоў,
падпяваючы ім.

Песня гучна пляскалася
у кірмашовых радах,
Як віно маладое
ў старых шматвяковых мяхах.

...Пачынаўся вось так
і кірмаш у сяле Сілічах.

З гучнай песняй студэнты
прайшліся па ім грамадой,
Той кірмаш, нібы сход,
адчыняючы песняй сваёй.
Нібы ён, як той сход комсамольскі,
пачацца не мог
Без іх песні бадзёрай,
прыйшоўшай з шумлівых дарог.
Іх саміх, як на злёт,
як на мітынг, прымала сяло,
Дзе тым часам якраз
і начальства з райкома было.
Сакратар, што сюды на кірмаш
завітаў пасля спраў,
Іх, нібы дэлегатаў,
прыбыўшых з раёна, вітаў.
Ён прайшоў з імі разам кірмаш
ад канца да канца,
Да тавараў прыцэньваўся
з выглядам пакупца,
Да размоў прыслухоўваўся
каля сялянскіх падвод,
Сам з людзьмі размаўляў...
Гаварыў пра спякоту народ,
Пра сухмень нечаканы,
які прыхапіў ярыну,
Пра паноў, што за блізкай граніцай
рыхтуюць вайну,
Гучна зброяй сваёй
выхваляючыся на ўвесь свет...
Тут з трывожнаю весткай
прыслаў пасланца сельсовет.
Пагранічны раён.

Дваццаць вёрст ад сяла да мяжы.
Не ўдалося ад спраў
адпачыць яму на кірмашы.

Сельсовет...
— Комуністы, ў нардом! Комсамольцы,
ў нардом!..

З сельсовета трывожны загад
паляцеў кірмашом.

Даганяў ён студэнтаў,
што з песняй ішлі між падвод.
...Як ішлі, так пайшлі комсамольцы
праз плошчу на сход.
Цішынёю суровай і строгай
Сустрэў іх нардом.
Сцэна. Стол. Над двухвёрсткай
Сядзеў сакратар за сталом.
Дубальтоўкі, вінтоўкі, бярданкі
Сабраны ў куток...
І хаця працаваў пры нардоме
Вайсковы гурток,
Толькі ў гэту хвіліну
Было зразумела для ўсіх,
Што сюды не на збор на вучэбны
Паклікалі іх.
Што, таксама, не п'есу
З часоў грамадзянскай вайны
Бачаць гэтай хвілінай
На сцэне нардома яны.
Сакратар уставаў з-за стала
І ў суровай цішы
Да прысутных звяртаўся
Са словам!:
— Таварышы!..
Толькі што пазваніў нам
Кавычанскі сельскі совет:
Дыверсанты адтуль
На кардон падаліся ледзь свет.
Знішчыць іх мы павінны

Атрадам сваім баявым,
Да заставы — далёка,
Нам дзейнічаць трэба самім.
Дысцыпліну захоўваць,
Жалезны парадак, спакой.
Комуністы — за зброю,
Комсамольцы — за зброю,
За мной!..

---

Міма лірнікаў, міма шумлівых
Сялянскіх падвод
З комуністамі разам
Ішлі комсамольцы ў паход.

Аднаго з імі толькі Цімоха
ў той час не было.
Ён сачыў з кургана,
як выходзіў атрад за сяло.
З даўніх пор на сяле,
за царквой, узвышаўся курган, —
За атрадам адтуль назіраў ён,
залёгшы ў бур'ян...
Вось сябры яго
мост перайшлі... За ракой, за мастом
Па загаду сакратара
пачалі ланцужком
Рассыпацца па полі,
як трэба — адзін за адным,
Ачапляючы з заходу лес.
Там — Марына, Максім...

...Хваляваў яго гэты малюнак
і ўладна здалёк
Вабіў яркай чырвонай касынкі
жывы аганёк:
Вось ён знік за бугром,
вось успыхнуў ён на бальшаку.
Як-жа стацца магло,
што застаўся Цімох убаку?
Што сябры аб ім скажуць?

А скажуць аб ім, — не сакрэт, —
Што ён трус, што ён ганьбай пакрыў
комсамольскі білет...
Што ім скажа Цімох?
У нардом ён з'явіцца не мог, —
Ён расстаўся вясной
з баявой комсамольскай сям'ёй.
Хіба праўда ўсё гэта?..
Зрабілася раптам яму
Горка, крыўдна да слёз
у глухім буряне, аднаму.
Горыч сціснула грудзі,
у горле засела камком,
Навакольле на момант
заслала ў вачах туманом...
Ён пабег з кургана. Вось рака.
Вось і мост. Перад ім —
Поле, лес за тым полем...
У месцы адным, у другім
Белы ўбачыў ён дым... Лес гарэў.
Ланцужком баявым,
Поўвярсты не дайшоўшы да лесу,
на пол і залёг
Комсамольскі атрад. Вось пачуў
страляніну Цімох.

Год з вясны быў засушлівы,
З чэрвеня лес быў сухі,
А ўжо з ліпеня — зааараны
Лясныя шляхі.
Днём і ноччу з трывогай
Хадзілі па іх леснікі,
Як ля складаў парахавых
Насцярожаныя вартаўнікі.
Сярод лета лугі парыжэлі,
Пажоўклі кусты,
Як трухлявыя галавешкі,
Курылі вакол балаты.
Чорным пылам пад ветрам
Клубілася чорная гаць...
Лес не проста у час гэты

Падпалены быў, як відаць.
Вораг першы заўважыў
атрад комсамольскі з-за дрэў,
Хмыз сухі падпаліўшы і верас,
агнём яго стрэў.
Стралянінай гарачай
кароткі закончыўся бой.
Лес смалісты, пад ветрам успыхнуўшы,
дыму сцяной
Даль вакол засцілаў...

Блізкі гул кірмаша за спіной
Чуў Цімох. Колькі часу ён так
прастаяў над ракой,
Потым кінуўся бегчы,
але не туды, дзе атрад,
А на шум кірмашовы
ён кінуўся бегчы — назад.
Неўзабаве адтуль, дзе ён знік,
Гул глухі даляцеў,
Быццам буры парыў
У магутных вяршалінах дрэў,
Быццам поезда рух
На далёкай дрымотнай вярсце,
Што мацнеў сярод лесу,
Памножаны ў кожным лісце.

Ён дужэў, нарастаў,
Ён каціўся бліжэй і бліжэй, —
Неслі гул перакатны з сабой
Грудзі соцень людзей.

Іх узняў па трывозе
Цімох з кірмаша на пажар.
Беглі людзі напрост —
Цераз мост, цераз луг —на папар.

Беглі. Дымам і іскрамі
Вецер ім дыхаў у твар.
Пад нагамі натоўпу
Дыміўся гарачы папар.

Ветрам гнаны агонь
Разрастаўся — на захад, на ўсход.
Сакратар — Клім Бударын —
Сабраў каля лесу народ.
Растлумачыў усёй
Грамадзе, што сабралася, ён:
Вораг лес падпаліў,
Уцякаючы за кардон.
Толькі ён, вораг той,
Ад сябе не адхіліць удар:
Хто агонь тут пасеяў, —
Смяротны пажне тут пажар...

**6**

Асцярожна ступаючы,
Сціснуўшы стрэльбу ў руках,
Ён, нібы паляўнічы,
Ішоў па слядах.

Цёмным лесам Змітрок
Увесь час ідучы,
Чорны след дыверсантаў
Згубіў уначы.

Ён ішоў наўздагад...
А калі раніцой
Стралянiну пачуў,
То падаўся па ёй,
Шлях трымаў на яе
Ад сасны да сасны.

Ён прыбег, калі, лес
Падпаліўшы, яны
Адыходзілі ўжо
У гушчар. На бягу
Уляпіў ён Даўбніцкаму
Кулю ў нагу.

Той упаў... А Сцяпан
Разгубіўся зусім,

Напалоханы стрэлам
Раптоўным такім,
Скочыў з месца, як воўк...
Паляўнічы — за ім.

Пан Даўбніцкі стагнаў,
зваў Сцяпана. Дарма.
Раз паклікаў, другі раз.
Адказу няма.
Хутка ён зразумеў,
што застаўся адзін.
Апіраючыся на пусты карабін,
Рану перавязаўшы,
кульгаў дацямна.
Уцякаў ён, а следам —
пажару сцяна.
Дзень кульгаў ён, другі.
Трэці дзень на нагах,
Хоць хістаўся,
жывёльны трымаў яго страх.
Грудзі крыўда душыла,
шалёная злосць.
Заяц збіў яго з ног,.
таптануў яго лось.
Гад хацеў абагнаць,
ды яму галаву
Ён прыкладам разбіў
і... зваліўся ў траву.
Але тут-жа з трывогай
зірнуў ён назад
І па жорсткай траве
сам папоўз, як той гад.
Так па лесе
гадзіну ён поўз не адну.
Уцякаў ён, ды раптам
пажару сцяну
Ён убачыў наперадзе...
Дымам у твар
І смяротным агнём
грозны дыхаў пажар.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ля будынка станцыйнага,
Каля чыгункі самой,
Каля складаў яе
Лес узняўся маўклівай сцяной
Там-жа ў лесе стаялі,
Якраз на пуці запасным,
Пад пагрузкай вагоны —
З-за дрэў іх не відна зусім.
Там-жа — проста пад дрэвамі —
Шпал запасных штабялі.

Пад пагрозаю станцыя,
Склады, вагоны былі.

Дзень і ноч камсамольцы на дол
Лес валілі вакол,
Ні сваіх не шкадуючы сіл,
Ні сякераў, ні піл.
За чыгунку цягалі
Той лес, што ад пілаў палёг,
Хвораст той, каб агонь
Зачапіцца за хвораст не мог.
Хоць прымусілі лес
Адступіць яны... Ды не на шмат.
Набліжаўся агонь...
«Не ўратуеш чыгунку ад страт»,
Бедавалі Максім і Марына,
Бо ім сакратар
Даручыў гэту справу...
А тут... набліжаўся пажар.

Набліжаўся агонь... «Не ўратуеш.
Відаць было ўсім.
— Што, каб лес запаліць нам?
Спытаўся ў Марыны Максім. —
Гэтак дзядзька рабіў мой,
Ён служыць даўно лесніком.
Гасяць, чуў я, пажары лясныя
Сустрэчным агнём...

Комсамольцы чакалі... Загад
Па радах баявых
Паляцеў: — з лесу ўсіх!
— З лесу ўсіх!
— З лесу ўсіх!..
А за ім следам новы загад
Паімчаўся па радах:
— Лес паліць!.. — і дымкі
Дружна ўспыхнулі скрозь па кустах.
Быццам гэта байцы
На агонь адказалі агнём.

Хутка полымя ніз залівала,
Нябачнае днём.
За паводкаю полымя
Вочы сачылі па тым,
Як чарнелі вакол верасы,
Што заліты ўжо ім.
Хмыз сухі, як раскіданы порах,
Шумліва гарэў,
Бег агонь непрыкметны
З патрэскваннем грозным між дрэў.
Вось ён, вось дабяжыць
Да крытычнае кропкі сваёй
І, здаецца, ад выбуху лес
Узляціць над зямлёй.
Цягай гнаны агонь
Бег імкліва насустрач агню.

Раптам крык,
Немы крык,
З лесу крык страсянуў цішыню.
Крык такі, быццам нехта
Там гінуў у нетрах глухіх.
Можа, хто не паспеў са сваіх
Выйсці з нетраў лясных?
Пабляднела Марына...
Ды ўжо не адменіш загад,
Стаў агнём ён, якога
Вярнуць немагчыма назад.
Пабляднела, зірнула

З трывогай таварышу ў твар.
Зразумеў ён, сам кінуўся
Моўчкі ў агонь, у гушчар.
Ёсць секунды ў жыцці,
За якія рашаецца лес.
Выйшаў з полымя ён,
Сам ахоплены полымем... Нёс
Невядомага з лесу:
Прытомнасць яшчэ ў гушчары
Страціў той... Ім насустрач
Максімавы беглі сябры.
З невядомым зваліўся Максім
На зямлю ля сасны,
Не данёс да сяброў...
Пінжакамі, рукамі яны
Збілі з кепак гарэўшых,
З іх вопраткі — полымя, дым.
— Што з табою, Максім?
Ён маўчау.
Сам не ведаў, што з ім,
Твар агнём быў абпалены,
Рэзала вочы святло.

Лес гарэў... Ён не бачыў,
Як полымя ў наступ ішло,
Як магутнаю хваляй —
Максіму было не відно —
На варожую хвалю агню
Наляцела яно
І як згінула з ёй у бары,
Нібы ў цёмным віры...

Не маглі баявога
Стрымаць захаплення сябры,
Дружным крыкам віталі
Прыход перамогі сваёй.
Хвалі полымя гінулі
З гулам, адна за адной,
Абсыпаючы іскраў мяцеллю
Будынкі, людзей. .

Ён не бачыў.. Ад болю
Не мог ён расплюшчыць вачэй...

---

За Сцяпанам — Змітрок
след у след, крок у крок.
І адзін і другі
ледзьве ногі валок.
Прытаміліся ўжо,
ідучы дзень і ноч,
Ні на момант са зброі
не зводзячы воч.
Асвятляла ім зарыва
сцежку ўначы.
Ад пагоні не проста
Сцяпану ўцячы.
Трэба лесам ісці,
гушчаром, ведаў ён,
Бо на ўзлессях цяпер
што ні куст — то заслон,
Колькі зораў блішчыць,
столькі сочыць вачэй.
Узнялі пагранічнікі —
знаў ён — людзей.
Знаў Сцяпан: не прабіцца
на захад цяпер.
Павярнуў ён на ўсход...
Меў ён цвёрды намер
Ад пагоні ўцячы,
ашукаць Змітрака.
Так тры дні ён вадзіў
за сабою стралка,
Але той не адбіўся...
Кружы, не кружы... —
На чацвёрты —
Сцяпан павярнуў да мяжы.
Гаварыў Змітраку
гул глухі трактароў,
Што граніцу
Сцяпан яшчэ не перайшоў.
Але пільна за ім

ён сачыў... І па тым,
Як Сцяпан прыглядаўся
да сцежак, да дрэў,
Што мяжа недалёка,
Змітрок зразумеў.

Хоць Сцяпан і Змітрок — родам з вёскі адной,
Ды жыццё іх даўно раздзяліла мяжой.

Не дружылі малымі таму, што не мог
Дом Сцяпанаў пусціць Змітрака на парог.

Дзецюкамі супольных не зналі дарог —
Млын Сцяпанаў таго ім дазволіць не мог.

Меў адзін — сад і млын, а другі — сам-адзін
На работу наймаўся ў той сад і ў той млын.

Тут, у лесе, дзе зноў іх сышліся пуці,
Паміж імі — мяжа, што прайшла па жыцці...

На адлегласці часам
размовы вялі.
— Адпачнём?..
На лясной адпачылі зямлі.
— Дзе такую, Змітрок,
адрасціў бараду?..
— Хутка ўбачыш... Цябе
я ў той дом прывяду.
— А навошта? —
Сцяпан падражняў Змітрака. —
Чым цягацца
ды бахаць з драбавіка,
Лепш вяртайся дамоў, —
пагражаў яму ён, —
Будзе горш, як цябе
завяду за кардон.
Моўчкі стрэліў Змітрок
зноў са стрэльбы сваёй.
Адаслаў у паветра
апошні набой —

Свой сігнал пагранічнікам
          з пушчы глухой.

          **7**

З песняй ішлі яны
          блізка граніцы заходняй.
Скончыўшы толькі што
          бітву з пажарам лясным,
Шляхам ішлі
          комсамольцы ў калоне паходнай,
Блізка граніцы
          ў парадку ішлі баявым.
Іх валасы не ад пылу
          таго пасівелі,
Што ад іх крокаў
          з сухой падымаўся зямлі,
Спаленых іглаў сасновых
          сівыя мяцелі
Разам з агнём
          над галовамі іх адгулі;
Бровы злінялі,
          але не абпалены сонцам
І не вятрамі
          на летніх гарачых шляхах, —
Іскры пажару нядаўняга
          роем бясконцым
Яшчэ дагэтуль
          у іх мітусяцца вачах.

Першы прывал.
Стогадовыя сосны, яліны
Шумам віталі іх
На скрыжаванні дарог.
— Слухай, Марына,—
Звяртаўся Цімох да дзяўчыны,
Разам з усімі з пажару
Вяртаўся Цімох.
— Не разумею, — казаў ён, —
Як стацца магло так,
Што за прычына?..
Ці час вінават, што каротак,

Што для размоў нам
Яго не хапала з табой?
Ці што другое, магчыма,
Было тут віной?..
— Што тут пытацца, здзіўляцца...
Ты лепей скажы,
Як гэта знік ты, прапаў ты
На кірмашы?
Хлопцы смяюцца, што струсіў...
— Смяюцца дарма.
— Зганьбіў, гавораць, білет свой.
— Якога няма.
— Як гэта?
— Выключай я. Разумееш сама.
Брат мой сядзеў у астрозе...
— Пры чым-жа тут брат?
— Нехта данос напісаў,
Што і я вінават,
З братам сваім кантрабандай займаўся...
— А ты?
Гроб сабе сена ўсё лета... адразу ў кусты
— Гэта няпраўда.
Расказваць, аднак, нецікава,
Як адвакатаў наймаў я,
Хадзіў па судах.
Брат мой нявінны,
На волі ён... Скончана справа!

———

Строем выходзілі зноў
Комсамольцы на шлях.

Міма бальніцы якраз
Пралягала дарога.
Каля ўваходу
Каманда агульная: —Стой!
Тут іх таварыш.

Дыханнем пажару ляснога,
Сонцам напоўніўся
Цёмны Максімаў пакой.

— Як тваe вочы?..
— Агонь не пашкодзіў іх... Бачу...
— Выпішуць хутка з бальніцы?
— Праз тыдзень, другі.
— Ты не бядуй, не сумуй тут.
— Ды я і не плачу.
— Правільна робіш, не след бедаваць, дарагі.
— Мы, калі што, — падтрымаем цябе.
— Падтрымаем!..
Дружнай сябры
Акружылі яго грамадой.
— Ну, будзь здароў...
— Дваццаць восьмага мы ад'язджаем.
— Ты нас чакай,
Мы заедзем сюды за табой.

З ім засталася ў пакоі Марына адна.
— Вынес каго я, — спытаў, —
У часіну ліхую?
— Вынес Даўбкіцкага ты,— адказала яна.
— Хто ён такі?
— Дыверсант.
— Не жартуй.
— Не жартую!
Добра зрабіў... Ну, бывай! —
І пайшла за парог.
— Да пабачэння!..—
Ён крыкнуць хацеў. Ды не мог.
Крокі за сценкай,
        каманда яе: — Станавіся!
І, як у войску,
        загад камандзіра — закон,
Крокі юнацкія
        ў рытме паходным зліліся.
Сэрца Максіма
        ляцела сябрам наўздагон.
Гэта здарылася ўсё
        на граніцы заходняй.
Скончыўшы бітву
        з нядаўнім пажарам лясным,
Горда ішлі комсамольцы

калонай паходнай,
Крочылі горда,
нібы перад светам ўсім;
Нібы на іх з-за кардону,
ашчэрыўшы зубы,
Як з друкаваных старонак
штодзённых газет,
Капіталісты глядзелі,
жадаючы згубы,
Сам Чэмберлен
праз манокль пазіраў ім услед.
Калі не сам,
не банкіры ў цыліндрах прыкметных
Дык пасланцы іх
хаваліся ў цёмных кустах,
Дык выканаўцы таемных
інтрыг іх сусветных
Ноччу паўзлі з-за кардону
з нажамі ў зубах.
Як не сігары,
дык чорныя іхнія мары
Каля граніцы дымілі
пажарам лясным.
Ведае свет,
аб якім яны мараць пажары,
Хочуць зямлю ўсю
заслаць яны дымам якім.
Хочуць яны, каб дымілі
на людзях шынелі,
Стрэхі на хатах.
Такі ім патрэбен пажар.
Горда ішлі комсамольцы,
як быццам хацелі
Гнеўныя словы падпальшчыкам
кінуць у твар:
— Знайце, падпальшчыкі
войнаў крывавых, калі
Полымя смерці заскача
на вогнішчах чорных,
Гнеў пабяжыць
па сцяжынках сваіх незлічоных

К сэрцу ад сэрца
          па нашай вялікай зямлі;
Па чалавечых пакутах,
          па гору людскому,
Быццам па пораху тому,
          заўсёды сухому,
Гнеў дабяжыць
          да вышэйшае кропкі сваёй, —
Выбуху хваля змяце вас
          магутнай рукой!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вольна ішлі яны пушчай, прыцішыўшы крокі,
І галасы ў насцярожаных нетрах лясных
Раптам спыніліся. Што гэта? Стрэл адзінокі
Рэхам трывожна-глухім дакаціўся да іх.
Што гэта? Стрэл паляўнічы?
Ці знак таямнічы?
Можа, сігнал пагранічнікам,
Можа быць, ім,
Скончыўшым толькі што бітву з пажарам лясным

...Недзе гушчар палыхнуў бліскавічным агнём,
З гулам цяжкім пракаціўся над дрэвамі гром,
З захаду хмара паўзла... Зашумела ў трывозе
Пушча...

Да іх пагранічнік скакаў па дарозе.
Зноў станавіліся ў строй па сігналу бяды,
Блізка граніца.
— На першы-другі разлічыцца!..
— Здвоіць рады!
Строй разлічыўся і парамі рушыў у лес,
Як у атаку, з вінтоўкамі на перавес.

———

Пушчай сунуўся змрок, хмарай высь завалок.
За Сцяпанам — Змітрок: след у след, крок у крок.

Паміж імі цяпер іх мяжа пралягла
Не гасцінцам, што млын аддзяляў ад сяла,

Не звярынаю сцежкаю ў пушчы глухой,
А граніцай двух светаў, дзяржаўнай мяжой.

— Адстраляўся! ? —
Сцяпан з карабінам пустым, —
Што пусты ён,
Змітрок знаў даўно ўжо аб тым,—
Апынуўся за момант адзін
перад ім.
Стрэў Сцяпана Змітрок,
як баец, як салдат.
З гучным трэскам разбіўся
прыклад аб прыклад.
Па карэннях качаліся,
па дзеразе.
То адзін, то другі
Бралі верх па чарзе.
Хто задушыць каго
На паляне лясной?
Да варожага горла,
Нарэшце, рукой
Дэцягнуўся Змітрок.
Ды не ўбачыў Змітрок
Фінкі... Фінкай Сцяпан
Парануў яму ў бок.
Скончана... Выцер кроў
Аб траву-дзеразу.
Вось і сцежка адкрыта яму за мяжу.

След спачатку пасыпаць хацеў тытунём,
Ды прыслухаўся: крокі пачуў за кустом,

Скочыў з месца, як воўк. Глуха ў лесе глухім
Бухнуў стрэл. У гушчар ён рвануўся. Над ім

Трэснуў лес; хлынуў дождж, засцілаючы свет
Цёмнай сцежкі лясной заліваючы след.

Бляск маланкі, а ў ім— твар рашучы стралка,
То, здалося Сцяпану, быў брат Змітрака,

З ім — Марына. Са зброяй — яна і Цімох.
Больш нічога не ўбачыў Сцяпан. Тупат ног

Ён пачуў за спіной. Тупат ног, крыкі «стой!»
Гул цяжкі неадступнай пагоні лясной.

Рваў Сцяпана віхор, з ног збівалі карчы...
Пушчай бура ішла, ноч з сабой несучы.

...Бор гудзе, ноч гудзе. Пушчай бура ідзе.
А куды гэта бура людзей завядзе?

**8**

Яшчэ не скончылася
　　　　афіцыйнае лета,
Яшчэ не злічаны
　　　　дні яго календаром,
А ўжо за даллю,
　　　　якая смугою адзета,
Восень наладзіла
　　　　свой гаспадарчы прыём
Дробным дажджам,
　　　　што цярусяцца на журавіны,
Нізкім лясным туманам,
　　　　што паўзуць з балацін,
Сонцу, што свеціць
　　　　не больш як чатыры гадзіны
З дзённых сваіх
　　　　чатырнаццаці з нечым гадзін.
Ладзіць прыём павуцінам,
　　　　што верас задумны
Кінуць гатовы ўжо,
　　　　каб паляцець у прастор,
Гулкім машынам,
　　　　якія завезены ў гумны,
Бесперастанку працуюць
　　　　ад зор і да зор.

Неафіцыйная восень
чырвоным абозам,
Звонкім вясellям
    па полі пракладвае пуць.

Скрозь семафоры адкрыла
    яна паравозам,
Што караваны вагонаў
    па рэйках вядуць.
Покуль збіраецца
    вырай птушыны за лесам,
Покуль рыхтуецца ён
    у далёкі адлёт,
Першымі восень свае
    караваны з жалеза
Рушыла з месца
    на поўнач, на захад, на ўсход.
Рушыла іх па зямлі яна,
    а не па небу,
І загадала ляцець
    не на поўдзень зусім, —
Цёплых краін
    караванам жалезным не трэба,
Поўдзень і поўнач
    патрэбны аднолькава ім.

Сёння адна ў падарожжа
    іх рушыла мэта:
Стомы не ведаць,
    імчаць у прасторы палёў,
Каб адусюль,
    дзе студэнцкае скончана лета,
Па інстытутах развезці
    дзяўчат і хлапцоў.

Скончана лета...
    Хаця й невядома машынам.
Колам, якія грукочуць
    і ноччу і днём,
Што гэта ім не чыгунка,
    а што гэта ўсім ім

Восень наладзіла
свой гаспадарчы прыём.

Дзень дваццаць восьмага жніўня
Не меў выключэнняў.
Нейкіх прыкмет асаблівых
Дзень гэты не меў,—
З-за туманоў не відаць было
Сонца праменняў,
Лісце вільготнае,
Жоўклае падала з дрэў.
У гэты дзень
Уставала Паліна на золку.
Не пазнавала мясцовасці
Новай з акна:
Дом яе, клець
У калгасным стаялі пасёлку.
Хутар глухі
Парашыла пакінуць яна.
Дом перавезлі
За некалькі дзён талакою.
Цёмнага, страшнага лесу
Цяпер не відно,
Што не даваў ёй спакою,
Дзе стала ўдавою...
Хіба было ў гэтым доме
Жыццё хутарское?..
Калі было, дык, здавалася,
Вельмі даўно.
Чорная бура
Разнесла яго нечакана.
Громам смяротным сваім
Прагрымела над ім,
Там, у тым лесе,
Былое жыццё пахавана.
Жыць трэба новым жыццём.
Непадобным. Другім.

Дзень дваццаць восьмага жніўня...
Максіма з сабою,
Хоць не без цяжкасцей,

Але забралі сябры
Ад дактароў яго,
Ад медыцынскай сястры.
Час развітацца
З бальніцай яму, з медсястрою.
Самі ўзяліся давезці
Да месца вучобы,
Там-жа, на месцы,
Яго паказаць дактарам,
Ну, а спытаюць гісторыю,
Скажам, хваробы —
Хіба яна невядома
Ягоным сябрам?
Селі на поезд, паехалі
Разам з Максімам,
Зноў пакідаючы свой
Пагранічны раён,
Спалены лес засцілаючы
Парай і дымам,
Поезд імчаўся. Спыніўся.
Усе да акон...
Тут, як пасля буралому,
Пасля навальніцы,
Зноў пачынала ўваходзіць
Жыццё ў берагі:
Сцягвалі дрэвы,
Заворвалі попел плугі...
— Хлопцы, дзяўчаты, зірніце!
— Бударын, зірніце!..

Разам з вялікаю,
З дружнай людской грамадою
Ён працаваў тут
І працы вясёлай быў рад.
Крыкі пачуў ён.
Пазнаўшы хлапцоў і дзяўчат,
Ён усміхнуўся,
Махнуў у адказ ім рукою.
А паравоз, быццам гэтага
Толькі чакаў,
Свіснуў раскаціста... З месца

Скрануўся растаў.
Было падобна:
Бударын не проста рукою
Ім памахаў, а што ён ім
Адкрыў семафор,
Быццам-бы выправіў,
Было падобна на тое,
Іх у дарогу жыцця…
У вялікі прастор!

———

Дзень дваццаць восьмага жніўня
настаў… Семафоры
Песням адкрыты. А толькі
сябрам не да іх.
Селі ў вагон, падлічылі:
не ўсе яны ў зборы,
Хор не гучыць,
галасоў не далічвае ўсіх.
Не пранясе свой гармонік
Цімох па саставу,
Не ўскалыхне сваёй песняй
Марына вагон.
Дзе запявалы? З тых пор,
як пайшлі на аблаву,
Цягнецца іх паляванне
да сённяшніх дзён.
Дзе яны? Можа, забіты
ў часіну ліхую?
Што з імі? Можа, іх след
за кардонам прапаў?
…Поезд ляцеў,
агінаючы пушчу глухую.
Вёў паравоз краем пушчы
Жалезны састаў,
Вёў і трубіў
сярод гулкіх, дрымотных лясоў,
Нібы важак той,
што згубленых зваў журавоў.
Ехалі…
Спалены лес прамінулі даўно.

Завечарэла.
Лясы абышоўшы, даліны,
Кінула ранняя восень
паштоўку ў акно,
Поездам хуткім сарваную
з вецця́ў каліны,
З лесу пасланую.
Так, як упала, яна
Ціха ляжала на століку
блізка акна.
Моўчкі па ёй
пасажыры-студэнты чыталі
Лета аповесць,
якое яны пакідалі.
Ім не здалося звычайным
такое пасланне,
Не выпадкова яно
заляцела ў вагон:
Родная пушча,
зямлі пагранічнай дыханне
Кінулі ім у акно
свой вандроўны агонь...—
Каб ён упаў,
ад прапаўшых сяброў іх, прыветам,
Каб непакоем пылаў
за трывожны іх лес,
Каб яны помнілі усе,
развітаўшыся з летам...

Колы грымелі...
Трубіў і трубіў паравоз.

## ГРОЗНАЯ ПУШЧА

### 1

Так, як птушцы не ўсякай прырода дала
Права зваць сябе велічным імем арла;

Так, як дубу не кожнаму права даём
Называцца лясное зямлі ўладаром,—

Так не кожнаму лесу асмелюся я
Даць імя незвычайнае, пушчы імя.

Пушча — гэта плямёны асілкаў-дубоў,
Што сышліся на вечныя сходкі дуброў;

Гэта мачтавых сосен бары-гушчары,
Цёмны лог, дзе пасуцца дзікі і зубры;

Дом, абжыты арлом, схоў, абраны ласём,
Цэлы край, са сваім першародным жыццём.

Многа складзена песень аб пушчы старой,
Вершаў шмат у мінулым прысвечана ёй.

Сёння пушча забыта; складае свае
Пушча песні сама; хто-б успомніў яе,

Каб не час, аб каторым я зараз пяю,
Што праходзіў граніцай праз пушчу маю;

Што імчаў па зямлі, як жалезны віхор,
Пасылаючы вершу бацькоўскі дакор:

— Бедны верш,— ён казаў,— што спяшаешся ты?
Рытм згубіў, пазбіваў звонкіх рыфм капыты.

Колькі, верш, пад табой адгрымела дарог?
Колькі, верш, за табой неўзараных аблог?

Хіба ў сэрцы тваім жар рабочы пагас?..
Ты за мной не ганіся так, бедны Пегас.

Можа час абагнаць толькі думка адна,—
З неўзаранай зямлі не праб'ецца яна.

Выязджай на прасторы шырокіх паэм,
На цалінныя землі някранутых тэм.

Хай радкі, як барозны, кладуцца па іх.
Ты ў барозны кідай зерні думак жывых,

Каб калоссямі слоў зазвінелі яны,
Каб далі людзям хлеб свой з тваёй цаліны.

Каб ляжаў на сталах ён і ў ранцах, той хлеб,
Побач з хлебам, што вырасціў залежны стэп.

Крыкнуў час мне: —Спыніся на момант, яздок,
Глянь на гэты забыты табою куток.

Тут граніца праходзіла пушчай глухой,
Думка часаў наступных лунае над ёй

Вольнай птушкай, жыхаркай бароў і крыніц,
Што не знала і знаць не жадае граніц.

Тут прастор твой някрануты; цягнецца ён
З дзён мінулых, праз нашы, да будучых дзён.

Глянуў я навакол. Не спыніцца не мог.
На пачатку аблогі Пегаса распрог.

— Гэй, буланы!.. Вушамі, браток, не стрыжы,
Не палохайся пушчы і блізкай мяжы.

Хай цябе не засмуціць твой першы агрэх,
Людзі добрыя нас не падымуць на смех.

Ім нялёгка самім здабываць для патрэб
З Кустанайскай аблогі працоўны свой хлеб.

З імі думкі адны ў нас і справы адны.
Гэй, далей і далей, на прастор цаліны!..

———

Зноў мы ў пушчы. Граніца праходзіць па ёй
Нешырокай сваёй — нічыёй — паласой.

З часу першых падзей цэлы год прашумеў
Сярод гэтых граніцай падзеленых дрэў.

Лесам пойдзеш на ўсход, то па нетрах лясных
Пройдзеш, можа, кілометраў трыццаць якіх.

Не маленькі таксама займае ён край
І на захад — кілометраў дзесяць, бадай.

Пасярод таго лесу, за панскай мяжой,
Пан гаёвы жыве ў сваёй хатцы лясной.

Не стары ён, пад покрыў густой барады
Раны след ён схаваў, маладыя гады.

Лес пільнуе, а некалі ён ад другіх
Сам хаваўся, туляўся па нетрах лясных.

Шляхам тым, на якім што ні куст — то заслон,
На здабычу, як воўк, ён хадзіў за кардон.

Год назад, ледзь жывы, ён прыцёгся адтуль,
Не здабыўшы нічога сабе, апроч куль.

Выжыў, ходзіць са стрэльбай, нагу валачэ.
Што аб ім расказаць засталося яшчэ?

Дзе радзіўся? Завуць як? Што гэта за пан?
Сам ён — родам з усходу. Завецца — Сцяпан.

Там, на ўсходзе, бацькі яго дом свой і млын
Мелі некалі. Зараз не маюць. Іх сын,—

На граніцы з Советамі, як ні кажы,
Вартасць мае, бо ўцёк ён адтуль, з-за мяжы.

...Даў пасаду Сцяпану, казённы аклад
Ваяводскі начальнік — Даўбніцкага брат.

Брат таго капітана, што сцежкай адной
Са Сцяпанам блукаў у свой час за мяжой.

Год назад, уцякаючы з той стараны,
Бор сухі ў час ліхі падпалілі яны.

Там застаўся ў пажары лясным капітан.
Нечакана быў ранен ён. Ды Сцяпан

Аднаго яго кінуў у пекле страшным.
Брат прапаўшага, праўда, не знае аб тым.

Верыць ён, што ад кулі, як мужны салдат,
На руках у Сцяпана памёр яго брат.

Нават месца, дзе цела яго пахавана,
Добра знае Даўбніцкі з расказаў Сцяпана.

---

Хай з падбітай нагой, хай паранены, ён
Тут патрэбны панам. Недалёка кардон.

Вось і сёння якраз пасланец быў ледзь свет.
Сам Даўбніцкі паклікаў Сцяпана ў павет.

Добра ведаў, як ехаў, ляснік малады,
Што яго не з-за дрэў выклікаюць туды.

Ды не ведаў ён, з кім яму грознай мяжой
Там прызначана стрэча, як доляй самой.

Не чакаў, што сустрэнецца тварам у твар
З тымі ён, што лясны сунімалі пажар,

Ад каго год назад уцякаў ён ваўком,
Хто са зброяй ішоў за ім ноччу і днём.

Не чакаў, што з Цімохам, з Марынай яму
Стрэчу лес рыхтаваў. Ён не знаў, што ў турму

Трапіць ім давялося. Быў ранены ён
Год назад. А яны?.. Пушча іх за кардон

Завяла, бура, ноч; сцежкі зблытаў ім бой;
Раніцой зразумелі: яны за мяжой.

Зброю ў лесе схавалі... Вярнуцца адтуль
Не ўдалося назад — затрымаў іх патруль.

Цяжка хворы, нажаль, злёг Сцяпан у шпіталь.

Ён не знаў, што ўвесь час, як яго санітар
Даглядаў, іх турэмшчыкі ўспорвалі з нар.

— Вас заслалі! —крычалі ім следчыя ў твар.

— Комсамольцы, пся крэў! Вас паслаў комсамол
Не адзін напісалі. на іх пратакол,

Поўны брудных паклёпаў, нікчэмнай хлусні.
Дні міналі. Турэмныя, чорныя дні.
Катавалі Цімоха...

На дне сваёй ямы
Ён ляжаў, а ўставаў — бачыў мур той жа самы.

За акном палымнелі, кружыліся далі,
Сам гарэў ён, вакол яго іскры ляталі,

Нібы іх высякалі жалезныя краты,
На крывавыя свет падзяліўшы квадраты.

Нечакана іх побыт зрабіўся другім,
Больш не білі, спатканні дазволілі ім.

Ад совецкіх улад атрымалі запрос
Аб іх лесе паны.

— Безнадзейны ваш лес,—
Следчы ім спачуваў,— мур, сляпое акно.
Вам,— ён раіў,— цяпер засталося адно:
Напісаць у Варшаву
Майму ўраду заяву,
Што шукаеце вы абароны ў яго,
Адракаючыся ад падданства свайго.
Дасць ён волю вам, дасць вам страху і дазвол,
Каб злучыў вашы сэрцы навечна касцёл.

Як ім быць? Хоць спатканні дазволены ім,
Ды яны пачакаюць са шлюбам такім.

Следчы сватае рана, жаніцца не час.

На савецкі запрос адаслалі адказ,
Што такіх грамадзян не было і няма.
Павятовая іх пахавала турма.

Ані допытаў больш, ні жаданых сустрэч,
Ні лістоў на радзіму, вядомая рэч.

Прамінула зіма. На зялёны прасцяг
Выйшаў май. Першы май. Чым касынка не сцяг?

Май касынкай Марына вітае ў акне.
Вы, паны, закапаць нас жадаеце? Не!

Прагай волі жыццё прабівае муры.
Песню еднасці камер другіх жыхары

Падхапілі. Жывыя віталі жывых.
Зноў магільшчыкі змрочныя ўспомнілі іх.

Лёд скрануўся, зноў справа пайшла на разгляд.
...З ваяводства прыехаў Даўбніцкага брат.

З ваяводства ў павет пан Даўбніцкі прывёз
Аб іх лёсе другі з іх радзімы запрос.

Так, ці гэтак, а вырашыць справу пара.
...Не сыходзіцца толькі з гарою гара.

Пан Даўбніцкі прыехаў, паклікаў Сцяпана.
Так спаткаў ён сваіх землякоў нечакана.

Ён сустрэў іх, калі іх на допыт вялі,
У турме іх пазнаў, але ў час той не знаў,

Што яму ўжо, згубіўшаму раптам спакой,

Не вярнуцца да ціхай старожкі лясной.

Што закруціць яго з гэтай самай пары.
Зноў граніца-мяжа ў сваім цёмным віры,

У віры з мутным дном, у віры з судным днём,
У віры — са сваім непазбежным канцом.

———

Першы допыт. Даўбніцкі паклікаў Марыну.
Справа трапіла ў рукі вяльможнаму чыну,

Што прыехаў, вядома, не толькі на допыт.
Тут з дзяржаўным і свой спалучае ён клопат.

Пан Даўбніцкі — тутэйшых зямель уладар,
А не толькі начальнік. Ён тут — гаспадар.

Не займаўся-б ён дробнаю следчаю прозай,
Каб не ўласны абшар, што якраз пад пагрозай.

Ліпень месяц цяпер. Надышоў час жніва.
Гаспадаркай занята яго галава.

На зямлі яго сёлета слаўны ўраджай.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Праўду мне гавары. Знаю ўсё. Памятай,
Я рашаю твой лес.

— Лес мой вам не падданы.
— Ён падданы, калі на ім нашы кайданы.
Ты радзілася тут, хоць прыйшла з таго краю.
Бачыш, нават і гэтую дробязь я знаю.
Знаю ўсё. Мне патрэбна праўдзівае слова.
Як вы нашу мяжу перайшлі?
— Выпадкова.
— Хлусіш ты.

Побач з панам сядзеў і за ёй
Назіраў увесь час чалавек з барадой.

Ён устаў, да яе падышоў нечакана,
Стаў насупраць.— Ну што, не пазнала Сцяпана?

А вось я вас пазнаў — і цябе і Цімоха.
Цэл, як бачыш. Жыву. Што паробіш, эпоха!

Адвярнулася, брыдкай зарос барадою?
А калісьці вучыліся разам з табою.

Што, прыйшлі к нам — сусветны пажар раздзьмуваць?
— Я не знаю цябе. Не хачу цябе знаць.

То — Сцяпан быў. Даўбніцкаму ён дапамог
Справу высветліць. Разам з Марынай Цімох,—
Так ён сведчыў,— са зброяй мяжу перайшлі.
Палявалі — за ім. Быў на польскай зямлі
Імі ранены ён... «Можа, скажаце — не? —
Ён пытаў,—можа, вы не стралялі ў мяне?»

— Хіба толькі ў мяне,— сведчыў пану Сцяпан,—
Ад іх кулі загінуў ваш брат-капітан,
Што быў разам са мной
У той час за мяжой,
Што памёр, як салдат, у мяне на руках
Ад іх кулі...

...Дадому закрыты ім шлях.
Сведка ўжо напісаў, падпісаў пратакол,
Прачытаў пан Даўбніцкі, замкнуў яго ў стол,
У Марыны спытаў:
— Што маўчыш? Можа, вы
Не стралялі ў яго? Можа, брат мой жывы?

— Я не знаю,— зірнула на сведку ва ўпор,—
Можа, ён на руках у Сцяпана памёр.

— Ты не знаеш? Ты што гэтым хочаш сказаць?
— Што? Нічога. Судзіце. Адкуль-жа мне знаць?

— Ты не знаеш!?

Канец далікатнай размовы.
Твар змрачнее, сыходзяцца чорныя бровы,

Дзве маланкі, пад нізкім і цёмным ілбом,
Грозна бліснулі, грымнуў раскацісты гром.

— Ах, не знаеш!.. Чакай, скажаш мне, не ў павеце,
Усё чыста на свеце!

На зварот на радзіму — ніякіх надзей.
Заўтра пан іх пагоніць адгэтуль далей

Да турмы ваяводскай. Пад вартай. А там,
Пагражае, што лесам іх займецца сам.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Не сядзеў-бы ён тут (ні ў павеце, ні ў гміне),
Каб не жыта яго, што, няжатае, гіне,

Што, даспеўшы, пад сонцам стаіць, пад дажджом.
... Гнаў канвой парабкоў,— тупат ног за акном.

Пан хадзіў па пакоі, чарнейшы ад хмары.
Вочы, як бліскавіцы, як грому удары —

Гнеўны голас:—Праз іх, праз злачынцаў вось тых,
Жыта гіне, Сцяпан, на палетках маіх.

— Як-жа можна!? — А так: не сышліся ў цане.
Мала, бачыш!.. Мой хлеб вецер косіць і жне.

Ты падумай, у жыта калючага Дроту
Накідалі, ды столькі! Хоць цэлую роту,

Полк пакліч ачышчаць за пастаццю пастаць.
— Ах, якія злачынцы!..— Машыны стаяць,

Гіне хлеб. Гэта-ж бунт. Палітычная справа.
Хто, скажы, парабкам даў злачыннае права

Камітэты ствараць, на дарогах пікеты

Расстаўляць? Баставаць? Тут віною—Советы.

Іх рука. Іх рука... Можа, нават і гэтых
Аднашкольцаў тваіх, комсамольцаў адпетых.

Пан замоўк. Гнеў сціхаў. Супакойваўся гром.
... Гнаў канвой парабкоў,— тупат ног за акном.

Праз акно пан Даўбніцкі услед ім глядзеў:
— Я цяпер пакажу ім пікеты. Пся крэў!
— Гэта іх камітэт,— паглядаў ён услед.—
Гнаць адгэтуль усіх прэч з палеткаў маіх!..

**2**

Гоніць варта людзей
Лесам, полем, далінай.
Гоніць той буравей
І Цімоха з Марынай.

З двух бакоў лес штыкоў,
Крыкі, сварка, пагрозы,
Пазнаюць парабкоў
Па іх песнях бярозы.

Пазнаюць па нагах,
Аб карэнне пабітых,
Па крывавых слядах,
На этапах здабытых.

З парабкамі ідуць
І яны пад канвоем.
Разам з імі пяюць
Песню зладжаным строем.

З той начы, як была
На граніцы аблава,
Нібы вечнасць прайшла...
Гэта сон, альбо ява?

Гэта праўда, ці не?
Вось і ўбачылі самі,

Што магло толькі ў сне
Ім прысніцца часамі.

Крочаць... Грозная іх
Падхапіла навала,
Па дарогах сваіх,
Па этапах, пагнала.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэй, скажыце, шляхі, мне,
Ці хутка, ці скора
Назаўжды вас пакіне
Кайданнае гора?

Гэй, калі вас узрушаць
Сабою камбайны,
Гулам працы парушаць
Пейзаж аднастайны?

Можа, скора мінецца
Гадоў ліхалецце?
Але хіба вас мала
Такіх на планеце?
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Апускаецца змрок,
Песня ў далях змаўкае.
Гора чорнага крок
Моўчкі шлях вымярае.

Шлях паўз могілкі лёг,
Ногі за дзень пазбіты,
Адпачынак для ног —
Надмагільныя пліты.

— Гэй, пшэдоўнік, чакай!
Што не лічышся з горам?
Адпачыць яму дай —
Пасядзім, пагаворым.

— Тут сырая зямля,

Тут паветра благое.
Дам вам спокуй пасля
За надзейнай сцяною.

— Гэй, тады адгадай:
Ёсць сяло, цэлы край,
Там народ не ўстае,
Певень там не пяе.

— Зараз гэтым сялом
Мы ідзём. Пад зямлёю
Людзі спяць вечным сном,
Пеўні змоўклі пад ёю.

— Памыліўся. Той край —
Гэта Рэч Паспаліта,
Што народнай крывёй
З ласкі панскай паліта.

Лес крыжоў з двух бакоў
Той дарогі кайданнай...
Раптам — што гэта? — лес
Рушыў з месца, палез
Грамадой раскаванай
На штыкі, на канвой.
— Бі, глушы, чым папала!..

...Гэй, няпраўда — не спала
Сяло пад зямлёй!

———

...— Наш Будзёнавец тут
Кажа так: «Адгадай,
Што, — пытае, — за кут,
Што такое за край,
Дзе народ не ўстае,
Певень дзе не пяе?..»
Мы ўсё чуем, ляжым
За крыжамі. Маўчым.
Я ляжаў за плітой
І Нядоля — са мной.

Падымацца нам час —

Ён з ружжом, я — з калом...
Чуем пана адказ:
«Зараз гэтым сялом
Мы ідзём. Вечным сном
Людзі спяць пад зямлёй...»

Ну, і смеху было:
Разбягацца канвой
Стаў, як раптам сяло
На яго з двух бакоў
Паднялося, пайшло
З-за магільных крыжоў!..

Пан пшэдоўнік тады
Закрычаў: «Вы куды?!.»
Але тут перад ім
Мы з Нядоляй стаім.
«Рукі ўгору!» — грыміць
Грозны голас Нядолі. —
У старога ва ўпор
Гад і стрэліў з пістолі.
Калыхнуў мяне гнеў.
Эх, павер, не павер,
Бах!.. Ажно зазвінеў
Па пліце рэвальвер.
— А пшэдоўнік?— Даў драла.
— Куды? — У дзядоўнік.
«Стой,— крычу я,— пшэдоўнік!»
— А ён?
— У бульбоўнік,
Я за ім.
— Ну, а ён?
— Смех адзін, у кароўнік.
— Ха-ха-ха!.. А што там?
— Напароўся на рог.
— Ой-ёй-ёй! А далей што?
— Напэўна, падох.
— А Нядоля, што з ім?
— Занядужаў зусім.

Кепска з ім. Да зары
Не дацягне стары.

Бор. Сядзяць парабкі. А над іхняй размовай
Сосны ціха шумяць аб прыгодзе суровай,
Аб дружыне сваёй, што вярнулася з бою,
Аб тых людзях, што вызвалены з-пад канвою.

Хтось гармонік прынёс,
З песняю да нябёс
Верас, шышкі ды мох
Паляцелі з-пад ног.
— Будзе час, прыйдзе час!
Пабягуць паны ад нас,
Як сягоння пан пшэдоўнік...
— У дзядоўнік!
— У бульбоўнік!

Пад сасною размову вядуць парабкі.
— А Будзёнавец наш, хто ён будзе такі?
Хто назваў яго гэтак?
— З пятнаццаці год
Так завецца, з пары, як пайшоў у паход
На Варшаву з Будзёнаўскай арміяй ён.
Гэта клічка за ім засталася з тых дзён.

Бор скакаў. Як дзяўчаты, адна за адной,
Беглі кругам шырокім сасна за сасной.

Аж ляцелі з-пад ног шышкі, верас ды мох.
Падыходзіў да кругу з Марынай Цімох.

Штось Будзёнаўцу ціха сказалі яны...
Гул глухі паляцеў ад сасны да сасны,

Зноў па месцах ранейшых расставіў іх бор.
— Годзе пець... Скіньце шапкі. Нядоля памёр.

---

Не сышоўся з Даўбніцкім народ у цане:
Смерць скасіла касца, бура жыта пажне.

Ды не тая, што крыша лясное зацішша,
Бура тая, што грудзі людскія калыша.

Бура, зжаўшы, змалоціць той хлеб у бары,
Чыста зерні правее на буйным вятры,

А правеяўшы, ссыпле зярняты ў мяхі,
А насыпаўшы, іх павязе на шляхі

Да Нядолінага апусцеўшага дому,
Кацярыне-ўдаве, яе сыну малому.

Скажа сыну малому і маці старой:
— Гэта хлеб, за які заплаціў ён крывёй.

...Парабкі выйшлі з бору. Уборка на полі.
Свішчуць косы, сярпы, хлеб жнучы для Нядолі.

Спыніць хто, забароніць работу ім гэту?
Хіба карны атрад, як прыскача з павету?

Ды ўсё роўна павінны
Дажаць яны жыта,
Стрэльбы ёсць, карабіны —
У канвоя адбіты!

Рукі працы не мелі,
Косы рвуцца ў работу.
Толькі іскры ляцелі
З калючага дроту.

...Парабкі выйшлі з бору. А нашы сябры?
Косяць хлеб і яны. Працы рэха — ў бары!

На ўсе грудзі касец дыхаў вольна ў той час.
— Як там жыта, Цімох, людзі косяць у вас?

— Збожжа жнейкамі косім, касілкамі луг...—
Косы ўсе, каб паслухаць, сыходзяцца ў круг.

— Заaралі ўсе межы у нас трактары,
Працаваць мы выходзім грамадой на зары.

— Эх, прыволле!..
Цімоха
Слухаць радасна ўсім.

Людзі панскае поле
Уяўляюць сваім,
Без калючага дроту,
З дружным гулам машын.

— Ну, а сам, браце, хто ты?
— Сам я — парабка сын.
— Пэўна, трактарам родны
Уздымаеш абшар?
— Я вучуся... Без году —
Інжынер-сталявар.
Без мяне мае печы
Там дымяць над зямлёй.
Эх, а сёння-ж, дарэчы,
Год, як я за мяжой!

Цень ад хмары на збожжа
Лёг, на твары касцоў.

— Не бядуй, дапаможам
Вам вярнуцца дамоў.
Сталь вары... Прыйдзе доля
І да нас, і сюды.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Косіць панскае поле
Сталявар малады.

**3**

На зямлі той, дзе гора, дзе слёзы і кроў,
Ёсць лугі свае, дзе расцвітае любоў.

Прыйдзе час, расцвітаюць чароўныя іх
Дываны ў сэрцах вязняў па турмах сырых.

Доўга, доўга цвітуць у засценках халодных
Вязняў кветкі — ўспаміны аб вёснах свабодных.

...Сярод сёл, сярод ніў здратаванай краіны
Луг кахання зацвіў для Цімоха й Марыны.

Хоць яшчэ не сказаны жаданыя словы,—
Скоўваў вусны ім час і засценак суровы,—

Хоць не зведалі вусны прызнанняў ласкавых,—
На тых вуснах замок пацалункаў крывавых,—

Але тут, сярод працай абуджаных ніў,
Сэрцы ведалі ўжо: час прыйшоў, луг зацвіў.

Сціхне гоман у лесе, няма ім спакою.
Спіць яна ў шалашы, ён — пад строгай сасною.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Жаць канчай! — быў загад.
Слых прайшоў па павеце,
Што ўжо карны атрад
Едзе. З горада едзе.

Раз'язджайся, народ,
Сёння — дзень тут астатні.
Ля гружоных падвод —
Коні з панскае стайні.

Пад ялінай лясной
Адбыліся нарады.
Там разбіты пад ёй
Парабкі на атрады.

Раз'язджайся, народ. Заўтра ў пуць. На зары
Людзі едуць дамоў... Як-жа нашы сябры?

Уздыхнула Марына:—А заўтра-ж Ілля!..
— Заўтра, заўтра!..— азвалася глуха зямля.

Хмара ехала. Дождж валакла за сабой.
Эх, каб можна было з хмарай той, над зямлёй,

Ехаць ім, уначы!.. Да світання, лічы,
На кардоне былі-б, на знаёмых шляхах.

Ну, а там: дваццаць вёрст — і яны ў Сілічах.

За барамі, лясамі ёсць вольны народ.
Ёсць сяло Сілічы... Родны кут. Кожны год

Там — кірмаш на Іллю. Іх з таго кірмаша,
Год назад, узняла па трывозе мяжа.

За Сцяпанам, тады, за Даўбніцкім яны
Палявалі, пажар сунімалі лясны.

Хто-б сказаў год назад, што Даўбніцкага брат
Будзе ім на Іллю віць аблавы пятлю?..

Душна ў панскім бары. Час дадому, сябры.
Час і ім. Час дамоў — з кірмаша парабкоў,
Дзе бядак прадае пану жылы свае.
Дзе на торг да касцоў шле Даўбніцкі купцоў,
Дзе дае за касца па сем грамаў свінца...
Час дамоў, да другіх сёл і ніў. Там у іх
Запытаюць сябры: «Вы адкуль?..»

«Мы адтуль.
Мы з таго кірмаша. Нас сляпіла імжа,
Стогны раненых, плач горкіх сірат і ўдоў
Чуўся нам уначы... Мы нічым памагчы
Не маглі ім... Ішлі. Як па твары зямлі,
Па шчаках нашых іхнія слёзы цяклі.

Што з таго? Хай цякуць. Часам плача й салдат.
Мы ішлі, мы ішлі, каб вярнуцца назад...»

...Душна ў панскім бары. Доўга так да зары,
Склаўшы рукі, чакаць. Час збірацца, сябры!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У Будзёнаўца свой ёсць прытулак лясны.
Да яго развітацца прыходзяць яны.

Час дадому!.. Нажаль, дождж завешвае даль,
Ноч— у іх на пуці. Але трэба ісці.

Што-ж, дамоў, дык дамоў. Зразумелы наМер.
Ён гатоў пасабіць ім. Але не цяпер.

Шлях закрыты. На ўсходзе цяпер—патрулі:
Непакояцца, каб парабкі не ўцяклі

З хлебам панскім, ратунку ад пана шукаць,
У Совецкі Саюз. Час трывожны, Відаць,

Гэты час перабыць давядзецца ім тут,
Дзе асобны для кожнага знойдзецца кут.

Лепш, відаць, ім і ў розных атрадах ісці,—
Горш, як разам паны схопяць іх па пуці.

---

У сваім шалашы,
На маўклівай саломе,

Горка ім у цішы
Думу думаць аб доме.

Коней фырканне чуць
Дзесь у лесе, як дома.

Заўтра ў пуць, заўтра ў пуць,
А ў які — невядома.

Спаць пара. Дождж пайшоў.
Бліснула бліскавіца.
Перад імі, як зноў,
Прамільгнула граніца,
Тая ноч...
— Ты куды?

— Прымашчуся дзе-небудзь.
— Хмары, гром... Да бяды
Недалёка... Нам трэба
Разам быць... Тут мы ўдвух,
Як у тыя часіны.
Родны мой! Любы друг!
— Дарагая Марына!

...Вуснам іх, сэрцам іх,
Як было не прыпасці
Да жаданняў глухіх,
З горкай думкай аб шчасці.

---

Луг кахання зацвіў,
Першы луг... Расцвісці
Не дае яму бура,
Што мкне па жыцці.

Рух людзей, рух падвод —
Небяспекі прыкмета.
Разыходзься, народ,
Да наступнага лета.

Тых, што блізка жывуць,
Шлях асобны дахаты,
Што далёка — тых пуць
Пазбіраў у атрады.

У адным з іх —; Марына,
Цімох — у другім.

Развітання хвіліна
На скрыжаванні лясным...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На той зямлі, дзе гора, слёзы, кроў.
Не толькі ёсць жыццё і ёсць любоў,

На той зямлі ёсць ростані свае.

Яна іх, не шкадуючы, дае,

Ці на парозе, што вядзе ў астрог,
Ці ў месцы тым, дзе вечнасці парог.

Няхай-жа ростань тая абміне
Маіх сяброў... Ні ў турмах, ні ў труне

Я не хацеў-бы тут пабачыць іх
Пасля вось гэтых ростаняў лясных.

Калі дарогі зноў іх не звядуць
Тут, то няхай сустрэнецца іх пуць

Там, за мяжой, на светлай іх зямлі,
Абы яны здаровымі прыйшлі.

Якой-бы доўгай не была дарога...
— Чакаць.
— Чакаць.

...Чакаць адзін другога.

**4**

Шлях на захад далёкі.
Край глухі — Налібокі.
Едзе першы атрад
Праз гушчар глыбокі.

Пад аховай ягонай—
Падводы з хлебам.

У цішы зялёнай,
Пад месячным небам,
Праз лясныя ляды,
Праз рачныя броды
Кіраўнік атрада
Кіруе падводы.
Шлях начны, такі —
Невясёлы, нягладкі...
— Гэй, давайце, браткі,

Разгадваць загадкі.
Пастух рагаты,
Заглядае ў хаты,
Ідзе лесам — не шалясціць,
Ідзе бродам — не плюскаціць.
Хто гэта?
— Месяц, што ў небе вісіць.

— Б'юць мяне кіямі,
Рэжуць нажамі,
Усе мяне губяць
За тое, што любяць.

— Стой, Будзёнавец, зноў
Адгадаў я, здаецца...
— Што?
— Той хлеб, што ў мяхах
На вазах трасецца.

— Хата не хата,
Вокнаў багата,
Ёсць куды ўлезці,
А выйсця — няма.
Што гэта?
— Нерат.
— Няпраўда: турма.

— Помню іх вечна,
Люблю сардэчка,
Калі-б быў зямлёю,
Усіх забраў-бы з сабою.
Хто адгадае, што за яны?
— Гэта, няйначай, дзяўчаты...
— Паны.

Сярод лесу начнога,
Як загадка — дарога.
Як загадка тая,
Што дабра ўсім жадае,
А ёй добрыя людзі
Дзень і ноч топчуць грудзі.

Днём другія загадкі: разведку вялі,
Дзе заслоны пільнуюць іх, дзе патрулі,

Дзе звілі на іх карнікі гнёзды засад.
Днём і ноччу дарогу разгадваў атрад.

Шлях сумесны канчаўся. Пара ўжо дамоў.
Кожны мех свой прыкметны выцягваў з мяхоў

— Эх!.. — ускідваў на плечы, знікаў уначы,
Той заробак, здабыты крывёй, кленучы.

Парадзелі падводы. Атрад парадзеў. ^
Два вазы, два байцы шлях трымалі між дрэў.

Пяць мяхоў Кацярыны-ўдавы на вазах,
Безліч зор, як зярнят, на нябёсных шляхах.

Што ні крок, то да дома Нядолі бліжэй.
Коням везці лягчэй. Людзям?.. Хіба лягчэй?

Хіба лёгка Будзёнаўцу, лёгка Марыне
Ад Нядолі мяхі везці ў дом Кацярыне?

Пяць мяхоў, кожны важыць дванаццаць пудоў,
Разам столькі якраз, колькі меў ён гадоў.

Шлях да дома яго значыць зорная гаць,
А ў мяхах сном цяжкім зерні жытнія спяць.

Лепш-бы рукі мяхоў не развязвалі тых,
Не будзілі зярнят, што пасыплюцца з іх.

Не будзілі таго, каго нсльга ўзбудзіць,
Хто ў труне, не ў мяху, моцным сном ужо спіць...

Быў ён дома гасцём, свет для парабка — дом,
Жыў і спаў пад сасной, пахаваны пад ёй...

Млечны пуць, што пралёг над спакоем лясоў,
Шляхам вечнасці думку трывожную вёў.

Млечны пуць, ён пралёг з веку ў век, з веку ў век.
Што яму да зямлі, дзе жыве чалавек?

Што яму да. святочных ягоных радзін,
Што яму да смяротных ягоных гадзін?..

...Грукат колаў Марыну з высокіх нябёс
Зноў на дрогкую нашу зямлю перанёс,

Дзе світала якраз, лес купаўся ў расе,
Дзе загадкі людзьмі разгаданы не ўсе.

Дзе Будзёнавец строгі на ўзлессі каня
Зноў спыніў на пачатку трывожнага дня.

Запытаў ён, з сасны аглядаючы край:
— Хто нас бачыць, а мы яго не?.. Адгадай.

— Гаварылі, што бог.

— Так, казалі, што бог
Свайго вока з людскіх не спускае дарог.

Бог, казалі, з судом нас знаёміць, з астрогам.
Сёння гэткім у нас сышчык лічыцца богам.

Зараз ён на дарозе, а я на сасне,
Зараз я яго бачу, а ён мяне не...

---

На разведку Будзёнавец выйшаў. Адна
Вартавала падводы і коні яна.

Пасля траскай дарогі, са збожжам мяшкі
На вазах спалі ўпокат, нібы парабкі.

Коні мірна хадзілі па лесе глухім —
Іх цыганская доля не страшна ўжо ім.

...Ноччу ехалі смела, не тое, што днём—

Падазронай дарогай, а далей — сялом...

На шырокі прастор выязджалі з сяла.
Каляіна другая цяпер іх вяла.

За спіной засталася ў іх карная зона.
Не баяліся ўжо ні шпікоў, ні заслона.

Песняй «Смела, таварышы...» звонка яны
Днём будзілі дарогу, зацішак лясны.

А пад вечар пад'ехалі нашы падводы
Да забытага ўсімі паселішча Броды,

З двух бакоў адгароджанага, як сцяной,
Цёмным лесам, а з трэцяга — цёмнай ракой,

А з чацвёртага — багнай, трысцём, асакою, —
Не забытага толькі адною бядою.

Хоць і мала тут хлеба, — што можа расці
На спрадвечнай дрыгве, на карчах, на трысці? —

Хоць і мала тут сонца, — яно, як з-за гор,
Тут з-за лесу выходзіць пазней на прастор

І заходзіць раней для тутэйшых людзей, —
Але ўсё-ж свой куток ім ад іншых мілей.

Там, дзе хлеб у людзей ёсць, — нахлебнікі ёсць,
А сюды не прыб'ецца няпрошаны госць.

Паліцэйскі? Ён ходзіць сюды да пары—
Тут не толькі ёсць броды, тут ёсць і віры!

Сышчык? Сышчык не любіць тутэйшых мясцін —
І не гэтак віроў, як праклятых асін!

З даўніх пор тым і міл, тым і люб гэты кут,
Што няпрошаны госць не трымаецца тут.

Пад аховай ракі, лесу, багны, трысця
Будзе жыць тут Марына. Старонка жыцця

Пачыналася новая: годзе, даволі
Па дарогах блукаць ёй!..

— У хаце Нядолі
Грозны час перабудзеш. — А потым? — У сваты
Я прыеду з Цімохам. А там — і дахаты

Гэй, з вяселлем: званкі пад дугою, э-гэй!..
— А чаму так, з вяселлем? — А так весялей!

---

Двор, падводам вароты шырэй адчыні:
Едзе лета здалёк на гарачым кані,
Хлеб вязе твой, зароблены гаспадаром,
Ураджай, за які заплаціў ён жыццём,
Пяць мяхоў, кожны важыць — дванаццаць пудоў,
Разам — столькі якраз, колькі меў ён гадоў.

Уз'язджалі са стогнам
Падводы на двор.

— Дзе-ж Нядоля?
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Чаго вы маўчыце? Памёр?..
Як адказ, Млечны пуць над хацінай старой.
— Дзе-ж ён, дзе гаспадар мой?
— З дарогі сваёй
Ён не прыйдзе... Не з сэрца сышоў, а з вачэй,
Не памёр, а аддаў ён жыццё за людзей...

---

З Кацярынай Марына здружылася скора.
Раны гояцца. часам, а дружбаю — гора.

Разам пралі і ткалі яны дзень пры дні,
Разам поле аралі на панскім кані,

На кані, што пакінуў Будзёнавец ім.
Дзе.цяпер ён? На панскім кані, на другім,

Недзе пуць свой няспынна працягвае ён...
За работай і боль іх не гэтак чуцён.

Час сяўбы надышоў. Як сябры, між сабой
Размаўлялі яны за асенняй сяўбой,

Кацярына пытала:—Ці праўда, дачушка,
Не тутэйшая ты? Ты —залётная птушка.

— Што вы, маці, тутэйшая, простага роду.
— Але ў Броды прыйшла ты з Усходу? — З Усходу.

— А з мясціны якой? — З пагранічнага краю,
Блізка пушчы — сяло наша. — Пушчу я знаю,

Там згубіла, у бежанстве, горкай часінай,
Я дачку сваю... — Як яе звалі? — Марынай.

Кацярыне тады на іх першай сяўбе
Расказала Марына не усё аб сабе.

Хоць сказала, што родам адгэтуль яна,
Што з бацькамі яе разлучыла вайна,

Ды ўтаіла, што звалі ў далёкі той час
Не Марынай яе, а Алесяй якраз.

Што казаць?.. Можа, так Кацярыне лягчэй,
Можа, так яна боль свой забудзе хутчэй.

Моўчкі полем ішлі яны, з поўнай сяўнёй,
Шнур адзін засявалі, як маці з дачкой.

Сейце, сейце, дружней, каб зярняты ўзышлі,
Рунню ўкрылі сваёй боль людзей і зямлі!

За работаю дзён не лічыла Марына.
Называла дачкою яе Кацярына.

Вечарамі дачка, павязаўшы хусцінку,
Бегла разам з дзяўчатамі на вечарынку.

Там дзяўчаты лічылі яе ўжо сваёй —
Кацярыны Нядолі прапаўшай дачкой,

Што знайшлася. Хай лічаць! Яно і зручней
На выпадак няпрошаных, скажам, гасцей.

Але вось над страхой Кацярыны-ўдавы
Уначы паляцелі ў свой пуць журавы.

Днём над ёй павуцінне ляцела — прыкмета,
Што мінула ўжо лета. Суровае лета.

Неўзабаве, з-пад матчынай гэтай страхі,
Паляціць і яна на шляхі, на шляхі.
Засядзецца ў дзяўчатах ёй тут не дадуць.
Час прыйшоў і яе. Сват прыехаў. У пуць!..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Будзь здарова, дачушка!
— Здарова будзь, маці!

Паляцела, як птушка,
Праз грэблі, праз гаці.
Не сказала ўсяго.
А ці варта казаць?
Трэба толькі запомніць ёй
Гэтую гаць,
Толькі трэба запомніць
Навек, назаўсёды
Усім светам забытую
Вёсачку Броды,
Горкі час развітання,
Слёзы — як ёй стрымаць іх? —
Гэту курную хатку,
Гэту бедную маці,
Брод праз рэчку халодны,
Лугі, берагі...

— Да спаткання, мой родны,
Мой кут дарагі!

---

Сват прыехаў. З сабой
Жаніха не прывёз.
На дарозе глухой —
Грукат лёгкіх калёс.
Сват маўчаў. Дзе жаніх,
Што маўчыш аб ім, сват?
— На засаду натрапіў
Другі наш атрад.
Акружылі паны
Парабкоў. Бой вялі.
Шмат забітых было.
— Дзе-ж Цімох?
— Не знайшлі.

Вось і ўсё. Дзень маўчалі
Са сватам. А там —
Ён яе перадаў
Іншым, новым сватам.

Два халодных шляхі
Зноў ляглі перад ёй:
Шлях, што едуць, другі —
Што пралёг над зямлёй.

Млечны пуць!.. Што яму
Да таго, што з зямлёй
Павянчаўся жаніх,
Што быў суджаны ёй?

Млечны пуць!.. Што яму
Да людское крыві,
Што яму да пакут
Маладое любві?

Дзесь высока, пад ім,
Пад страхой сінявы,
З доўгім крыкам начным,

Зноў ляцяць журавы.

У Марыны цяпер,
Шлях пасведчыць гатоў,
Лес такі-ж, як і ў тых
Маладых журавоў.

Гоніць сівер
З халоднай краіны свае
Іх у край той, дзе сонца.
Што-ж гоніць яе?..

Для яе гэтак сама
Тут сонца няма,
Для яе тут — вясною
І летам — зіма.

Прыляцяць сюды зноў
Журавы па вясне,
А яна разам з імі
Не вернецца, не.

Разам з вечнай вясной
Яна прыйдзе сюды,
З сонцам тым, што зіму
Гоніць прэч назаўжды.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На граніцы праз месяц
Вяселле было...
Коні ліха ляцелі
З сяла ды ў сяло.
За нявесту — Марына,
З ёй побач — жаніх,
Незнаёмы... Ніхто
Не вянчаў маладых...
Песні, крыкі, званкі,
Бубны — чутны здалёк.

«Дадому, госцейкі,
дадому,

Паелі конікі
          салому!..»

З-пад калёсаў ляцеў
Ранні звонкі лядок...
Раптам дружныя коні
Рвануліся ўбок,
Нібы коней ліхіх
Нехта спудзіў...э-гэй!..—
За мяжу маладых
Пакацілі людзей,
За слупы, пакідаючы
Змучаны край...
— Гэй, Радзіма, з вяселлем
Марыну прымай!

Вось і ўсё. Для яе
Сонца волі ўстае.

Не спытае Даўбніцкі цяпер у яе
Ні аб браце сваім, ні аб іншым аб чым.
Вось і ўсё... А Цімох?..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Змрочны дом. Ноч — за шклом.
Да начальства названы Сцяпан на прыём.
— Прыгароўскі Цімох, куляй скошаны, лёг, —
Пан Сцяпану казаў, — ён прапаў... Зразумеў?
Шкода мне, ён не дрэннае прозвішча меў,
Мала жыў, мала быў сярод нас... Дык чаму
Не ўваскроснуць у лесе маўклівым яму,
Не пайсці-б паляваць, новай долі шукаць?
А чаму-б табе гэтым Цімохам не стаць?
Людзі — лес, цёмны лес, а ты — быў лесніком,
Паляваў, службу знаў...

...Змрочны дом. Ноч—за шклом.

**5**

Вось і ўсё. Пад дугой змоўк вясельны званок.
Можна-б класці было ў зруб апошні вянок,

Хату ўжо накрываць, як гаворац, страхой.
Ды адно невядома—хто жыць будзе ў ёй?

Пачакайце!.. Далёка яшчэ да страхі...
Хіба скончаны нашых герояў шляхі?

Хіба ўслед за Марынай з далёкіх дарог
На парог свайго дома не прыйдзе Цімох?

Пахаваць паспяшаліся? Што-ж, па прыкмеце,
Жыць яму пасля гэтага доўга на свеце.

Можа быць, і атрад, у дарогу з якім
Ён пайшоў, пахаваны дарэмна зусім?

Не дарэмна, нажаль. Трапіў ён, з першых дзён
Падарожжа свайго, на варожы заслон.

Камандзір быў забіты. Ад карных засад
Цэлы дзень без яго адбіваўся атрад.

А пасля парабкоў, каля хлебных падвод,
Палажыў пан Даўбніцкі — скасіў кулямёт.

Хто не ўстаў больш, хто ранены здаўся ў палон.
А Цімох? Ён не здаўся. Паранены, ён

Пяты дзень у палоне вады і травы;
Шосты дзень, сёмы дзень — у палоне дрыгвы.

Хай балотны, а — схоў, хай халодны, а — спрат;
Стрэлы ў лесе чуваць, блізкі гоман салдат.

Хоць параніў не цяжка яго кулямёт,
Голад косіць, аднак, вочы раніць чарот.

На птушыным пайку журавін і брусніц
Восьмы дзень ён сядзіць, стравы смачныя сніць.

Але вось змоўклі ў лесе салдат галасы,

Стрэлаў больш не чуваць. Апусцелі лясы.

Ціха зноў. Цёмны схоў пакідаючы, ён
Дзён ужо не лічыў; з явай блытаўся сон.

Сам не знаў, ці ён спаў, па карчах ідучы,
А ці багнай ішоў ён, сплючы на карчы.

Ад яды ён адвык. Дзень і ноч, ноч і дзень
Ён ішоў не адзін ужо. Следам, як цень,

Спадарожніца змрочная ўпарта за ім
Валаклася з халодным намерам сваім;

Уначы з-за кустоў выглядала ваўком,
Вечным сном спакушала заснуць яго днём.

З ног ад ветру валіўся, як сноп на жніве;
Непрытомны ляжаў на імху, на траве,

Уставаў, зноў ішоў- Так ён выйшаў з трысця,
Выйшаў з лесу; смяротны парог забыцця

Перайшоў. Дом убачыў з узлесся Цімох
І пайшоў на жыцця невядомы парог.

---

Трапіў ён на сядзібу Шыпшынскага Яна —
Адстаўнога маёра, былога улана,

А цяпер — поўнаўладнага гаспадара
Свайго дома ляснога, глухога двара,

Чалавека ў гадах ужо, складу суровага,
Што ў адстаўцы трымаўся парадку вайсковага;

Не жаніўся; быў думкі аб шлюбе скептычнай.
Шлюб законны ён справай лічыў празаічнай

Для маёра, славутых баёў ветэрана.
Для таго, каб бялізна была пасцірана,

Альбо хата прыбрана, не варта жаніцца,—
Есць служанка на гэта — дзяншчык у спадніцы.

Сам стары, ён служанак трымаў маладых,
Незамужніх. Ён нават жаніцца на іх

Прысягаў кожны раз, як наймаў. Але тут,
Як маёр, парушаў ён вайсковы статут,

Бо стрымаць слоў прысягі сардэчнай не мог.
...Змрочнай зданню на ранку спыніўся Цімох

Каля ганку, спалохаўшы парабчанку
Стасю, — пятую пана маёра служанку,

Што жыла толькі месяц у доме яго,
Што да смерці баялася тут усяго.

Гаспадар на парог не пусціў яго: — Хто ты?
— Чалавек. — Што ты хочаш?—Шукаю работы.

— Не па адрасу трапіў! Звяртайся да неба,
Там — твая ўжо работа. Мне хворых не трэба.

— Я змагу працаваць. Я не хворы. — Кру-гом!..-
Не прыняў яго пана Шыпшынскага дом.

Зноў на ўзлессі Цімох. Пад сасною прылёг
Адпачыць. Паляжаў. Але ўстаць больш не змог

І на ўзлессі глухім сном забыўся цяжкім.
Як ачнуўся ён, Стася стаяла над ім.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Парабчанка і парабак — брат і сястра.
Стаў на ногі Цімох. За работу пара!..

У той дзень быў маёр у ад'ездзе якраз,
Калі з лесу на двор ён прыйшоў першы раз.

Як загадвала Стася, каня ён запрог
І павёў за канём плуг на поле Цімох.

Сам наняўся араць ён зямлю задарма,
Сам ідзе баразной — лепшай сцежкі няма.

Дзе Марына? Не ведае... Без адрасоў,
Яшчэ хворы, слабы, як ён пойдзе дамоў?

Ён павінен спакойны знайсці сабе кут,
Не абы-дзе знайсці, а знайсці яго тут,

Недалёка ад сумнага месца таго,
Дзе загінуў атрад... Дзе, напэўна, яго

Будуць людзі шукаць. Дзе-ж іначай шукаць?
Не дарма ён наняўся зямлю тут араць.

Можа, выйдзе ён так, ідучы баразной,
На жаданы свой шлях?.. — Гэй, араты, пастой!

Мераў цвёрдымі крокамі поле маёр.
— Гэта ты? — Гэта я.-—Не памёр? —Не памёр.

— Хто араць загадаў?—Пані Стася. — Цікава,
Я тут пан, ці яна?.. — Гэта ваша ўжо справа.

— Вось што, хлопе... Агрэхаў нідзе не відно,
Што-ж, ары, як араў. Толькі ведай адно,

Што плаціць я не буду. Плаціць не люблю.
Дам куток дзе паспаць. Накарміць — накармлю.

А трымаць — не трымаю. Ты можаш пайсці.
Але пойдзеш куды? Скрозь закрыты пуці.

Пан маёр не хлусіў. Чуў Цімох і ад Стасі,
Што па вёсках, па сёлах напасць не ўнялася.

Сем ям тых, хто загінуў, хто з дому сышоў,
Не шкадуе іржавых яна ланцугоў;

На дарогах сваіх сёння ловіць усіх,
Хто, шукаючы працы, блукае па іх.

— Згодзен так?.. — Мне зямля падабаецца ў вас,
А таксама прырода. — Разумны адказ.

Чым цягаць табе заўтра турэмны ланцуг,
Лепш сягоння цягай баразною мой плуг.

Пан маёр не хлусіў. Лепшай сцежкі — няма.
Пойдзеш з дому — турма. Тут — таксама турма.

Тут — на гэтай зямлі, дзе загінуў атрад,
Збудавана яна. Што з таго, што без крат.

Ды не выйдзеш. За межамі гэтай раллі,
Днём і ноччу вартуюць яго патрулі.

Ноччу спіць ён трывожна на нарах, а днём
На чарговы свой шпацыр выходзіць з канём.

Як начальнік, з ключамі тут ходзіць маёр,
Аглядае свой двор, свой турэмны прастор.

...Думкі цяжка кладуцца адна на адну,
Як пад плугам пласты, з баразны ў баразну.

Пачакай, пан маёр, тэрмін скоичыцца мой,
Дацягну баразну... — Гэй, араты, пастой!

Бегла полем служанка Шыпшынскага — Стася.
— Гэй, таварыш, хавайся! Напасць не ўляглася...

Мала сёл ёй і вёсак, трасе хутары, —
Паліцэйскія ходзяць па нашым двары.

...Як з'явіўся пад вечар з канём ён на двор,
Сустракаў яго новаю весткай маёр.

— Я сказаў ім: ты — Стасі траюрадны брат.

Зразумеў?.. Гаспадар я, салдат, а не кат.

Я рашыў, чым цягаць табе іхні ланцуг,
Лепш цягай ты і сёння і заўтра мой плуг.

---

Жыта разам з сястрой малаціў на гумне
Брат Цімох... — Ты нічога не ведаеш?— Не.

— Навіна для цябе ёсць.—Якая, сястра?
— Мяне сватаюць. Замуж выходзіць?— Пара.

Хто-ж бярэ?—Пан маёр.— Ты згаджаешся? — Не
— Што-ж так? —Жэніцца ён не на першай на мне.

Хоча браць, ды не хоча вясці пад вянец.
— Хто-б падумаў, глядзі ты: агонь, не хлапец!

Малатарня гудзе, малатарня гудзе,
Шротам зерні ляцяць: — Быць бядзе, быць бядзе...

Кругам коней ганяюць, салому ў бакі
Адграбаюць і носяць у кут хлапчукі.

— Пра намеры яго, як наймацца ішла,
Знала я...— І пайшла?—Што-ж рабіць я магла?

Не тутэйшая я. Я з Мазурскіх балот.
З Польшчы самай іду — ад варот да варот.

З кім параішся тут? Той не думае шмат,
У каго ўсёй радні, што траюрадны брат.

З першых дзён даў мне ён два, на выбар, пуці —
Альбо з дому пайсці, альбо замуж ісці.

Першы шлях — лес густы, шлях другі — лес пусты.
Можа-б я і пакінула дом, каб не ты...

Кінуць брата тады не магла я ў бядзе.
...Малатарня гудзе, малатарня гудзе.

— А цяпер, як ісці? Блізка ўжо халады,
Блізка сівер. Куды я падамся, куды?

А ні маці ў мяне, ні кала, ні двара.
Можа, замуж пайсці? — Не згаджайся, сястра,

Абяцай, а не йдзі. — Колькі-ж мне абяцаць?
Ён такі, брат, жаніх, што не хоча чакаць.

Што рабіць мне? Адной страшна будзе зімой...
— Кідай службу сваю. Кі дай! Разам з табой

Уцяку я адгэтуль. З турмы — на прастор!..
— Не ўцячэш ты, — ўздыхнула, — заявіць маёр.

Не паможаш мне: зловяць цябе на шляху.
...Малатарня гудзе, вецер гоніць труху,

Вецер гоніць труху, малатарня гудзе,
Як завея гудзе: — Быць бядзе, быць бядзе!..

Брат адзін у машыну снапы падае.
Дзе-ж сястра? На гумне не відно ўжо яе.

За дваром, за гумном у яе абмалот —
Ходзіць, слёзы раняе цяжкія, як шрот.

Што з ёй? Стася маўчыць... А машына раве...
Стася ў доме Шыпшынскага больш не жыве,

Перабралася ў клець. З клеці ў дом, з дому ў клець
Ходзіць моўчкі, на свет-бы зусім не глядзець.

Гэтак месяц мінуў, а за ім — і другі.
Што з ёй?.. Двор уначы пабялілі снягі.

На парозе зіма ўжо. А з ёй і другая
На парозе служанка. Парог абмятае.

Зранку круціць завея, калоцячы дол.

Перабраўся Цімох у зімоўнік для пчол

З пуні жыць. Грубка ёсць там. Палок ёсць, дзе спаць.
Стася з клункам прыйшла да яго начаваць.

— Вось прыйшла... Пан прагнаў. Пасяджу пры агні.
Сёння першую ноч заначую ў радні,

А на заўтра — сама ўжо не ведаю дзе.
...А завея гудзе, а завея гудзе.

Падгалоскі у трубе, галасы за сцяной.
— Як ты пойдзеш адна?.. Уцяку я з табой!..

Пойдзем разам. На ўсход. Там — пазбудзеш бяду.
— Мы не дойдзем зімой.

Галасы за сцяной,
Галасы за сцяной, падгалоскі ў трубе.
— Пойдзеш ты. Цяжка будзе мне тут без цябе.

Як тут жыць без сяброў? Сэрца рвецца дамоў.
Ты не плач... Сам, як вецер, завыць я гатоў.

Два атрады было ў нас. Ты знаеш сама —
Лёг адзін з іх касцьмі, камандзіра няма.

Можа, стрэнеш каго, абы-дзе, хоць каго,
Ты з атрада другога таго, не майго,

Перадай, што жыве, цудам косці збярог,
Іх знаёмы адзін — Прыгароўскі Цімох...

Перадай, што прасіў іх — табе памагчы.
Ну, а я? Буду тут. Мне зімой не ўцячы.

Мне да мая хаця-б пратрымацца ў бядзе.
...А завея гудзе, а завея гудзе

Малатарняй чужой на халодным таку.
Брат заснуў, на падлозе, сястра — на палку.

Час прыйшоў уставаць, пачынала світаць.
За мяцельнай трухою дарог не відаць.

Як развітваўся з ёй, снег сляпіў іх імглой.
— Што табе мне сказаць, брат траюрадны мой?

Мне не страшна мяцель, мне не страшна зіма,
Я на гэта сябе асудзіла сама.

Мне не страшна памерці, а страшна мне жыць,
Не сябе, страшна сэрца сваё загубіць.

Страшна жыць мне з чужым, жыць у доме чужым,
А ўздыхаць па другім... па жаданым сваім...—

Перад ёю ляжаў свет, як замяць, глухі,
Дом, людзьмі не накрыты, зямля без страхі,

Непрытульны прастор, дзе ў свае каміны
Дзіка трубяць ваўкі ды вятры-дзікуны,

Дзе начлегу бяздомны не мае нідзе.
...А завея гудзе, а завея гудзе,

Вые сівер у печышчах цёмных лясоў.
Свет, калі ўжо збярэш ты сваіх цесляроў,

Свет, калі ўжо накрыюць, як неба, адной
Людзі дзікі прастор твой братэрства страхой?

Свет, калі ўжо, скажы нам, пад дахам адным
Чорны дзень не прысніцца больш дзецям тваім?

Стася ў замяць пайшла — ад сяла да сяла.
А завея гула, а завея гула,

Снег мяла па зямлі, па скаванай вадзе...
Дзе ты, Стася, сястра мая родная, дзе?

Пуста. Сэрца яму
Сціснуў новы ланцуг.
Цяжка вязню майму,
Што пайшоў яго друг.

У зімоўніку тым —
Як у камеры той...
З кім цяпер яму, з кім
Падзяліцца бядой?

Думкі іх, што вакол
Тут раямі гулі,
Як раі сонных пчол,
Закаваны ў вуллі.

З усіх думак не спіць
Толькі думка адна —
За зімоўнік ляціць,
Як за краты, яна

Як ручай, па ярах,
Прабіваючы лёд,
Думка светлы свой шлях
Пракладае на ўсход.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ладзіць баль завіруха
Па-над ручаём,
А ручай, хоць і глуха,
Ды звініць пад ільдом.

Разрывае палон свой,
Цесны, душны палон,
Над марознай палонкай
Парай дыхае ён.

Выглядае ў аконца
Ад відна да відна —
А ці хутка ўжо сонца,
А ці скора вясна?..

Скора, браце скаваны!
Адступаюць снягі,
Сонца паліць кайданы,
Есць іржа ланцугі.

Прыбаўляюцца сілы —
Лёд халодны крышы! —
Час змываць бруд зімовы
З раскаванай душы.

Закіпай гнеўнай пенай,
Гэй, выходзь з берагоў!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ці не час і табе, мой
Горкі вязень, дамоў?!

**6**

Надыходзіла дружная
Веснавая пара.
Прэч, мяцеліца сцюжная,
З сэрца прэч, як з двара!

Выйшлі рэкі закутыя
На прасторы лугоў.
Выйшла сэрца пакутнае
Са сваіх берагоў.

Вунь нясуць, з песняй шчыраю,
На лугі, паплавы,
Радасць ранняга выраю
Журавы, журавы.

Прыляцелі дахаты
Гусі-лебедзі зноў...
Сэрца вязня з-за кратаў
Птушкай рвецца дамоў.

Вольна лес, луг і поле
Уздыхнулі, але
Весткі з вольнае волі

Друг чамусьці не шле.

Рэкі ўсе, хоць і нехаць,
Улягліся даўно,
Можна іх пераехаць,
А ганца не відно.

Скрозь падсохлі дарогі,
А падмогі няма.
Не мінаюць трывогі,
Не пускае турма.

Што-ж чакаць, колькі можна?
Трэба, мусіць, яму
Прабіваць мур астрожны
Самаму, аднаму.

Самы час для пабегу —
Спяць цяпер патрулі,
След не ўбачаць, бо снегу
Знік і след на зямлі.

А падыме трывогу
Пан — начальнік турмы,
Ты ўжо, вязень астрогу,
Кут пакінеш нямы.

Як у песні той горкай —
Шлях цяжкі ў барацьбе! —
Будуць хлопцы махоркай
Забяспечваць цябе.

Будуць тайна дзяўчаты
Хлебам вязня карміць...
Дапілоўвай-жа краты —
Час ляціць, час ляціць!

Дачакаўся ён мая.
Да вяльможных паноў
На візіт ад'язджае
Пан маёр. Час — дамоў!

Пан папарыўся ў лазні
І паехаў. Бывай!..
Заўтра свята для вязня,
Светлы дзень — Першы май.

— Прывітанне ад Стасі!..—
На парозе ганец.
Свята. Чарка знайшлася.
— З Першым мая, хлапец!

І ў тым доме маўклівым,
Дзе стаялі вуллі,
Дружным роем шумлівым
Думкі зноў загулі.

Стол засланы, як дома,
Люба, міла да слёз.
Як-жа, госць незнаёмы
Нават чарку прынёс!

— Гэта Стася паслала.
Служыць Стася ў людзей.
Выпі з ім, — наказала, —
Каб было весялей.

— А яшчэ, што казала?
— Што знаёмых тваіх,
Як прасіў, адшукала;
Што табе нехта з іх
Шле наказ — не спяшацца,
Пакуль можаш — трымацца
Тут... Чым кепскі куток?

— Эх, абрыдла, браток,
Так сядзець. Не цікава.
— Хто гаворыць, што так?
Справа знойдзецца. — Справа ?
— Так.
— А сам ты, аднак,
Хто?

— Ганец, якіх многа.
Ад Будзёнаўца — я.
— Ад самога? —Самога.
Сувязь — справа мая.
— Ён табе... Пра дзяўчыну
Не казаў?.. Што чутно?
— Гаварыў. Пра Марыну.
— Што з ёй ? — Дома даўно.
— Дома?—Дома.

На твары
Вязня смутку пячаць:
Што-ж мяне ты, таварыш,
Не змагла пачакаць?
Дом, ён дом, безумоўна,
Але ўсё-ж — адкажы...
Май. Ну, што-ж, усё роўна
Шлю прывет. З-за мяжы!

— Эх, абрыдла мне, годзе
Тут марнець аднаму!..
— Будуць госці прыходзіць, —
Госць на гэта яму,—
Будуць людзі заходзіць...
— Ну, а я?
— Ты знаходзіць
Схоў ім будзеш, а часам
Працу тут — на касьбе,
На жніве. З імі разам —
Весялей і табе.
— Што яшчэ?
— Хіба гэта
Мала?.. Толькі-б здалеў,
Справы хопіць на лета.
Зразумеў?
— Зразумеў.
— Спраў тут хопіць. Вось карта.
Ад Будзёнаўца. Варта
Знаць табе гэты край.
Карту ты захавай.
Ёсць на ёй вёска Броды.

Падавайся туды,
Да ўдавы Кацярыны,
На выпадак бяды.
Ну, дык як — па астатняй
Вып'ем, брат?
— За сяброў!
— Каб у еднасці братняй...
Будзь здароў!—Будзь здароў!
Брата брат па дарозе
З лесу вывеў на шлях,
Дзе для іх на бярозе
Нехта вывесіў сцяг

Той, што Першага мая
Кліча ўсіх на парад.
Што працоўных еднае...
— Як імя тваё, брат?
Хто ты?

— Парабак стрэчны,
Сын вось гэтых дарог.
— Што-ж, бывай, друг сардэчны
— Да сустрэчы, Цімох!

---

Пан прыехаў. Ад шчасця
З ног не валіцца ледзь,
Ён жаніх. Не іначай —
Здох у лесе мядзведзь.

Толькі ў гэтай падзеі
Не мядзведзь вінават,
Вінават сам вяльможны
Сват — Шыпшынскага сват.

Ён усватаў маёру
Пакаёўку сваю,
Ядзю — дробную, зграбную,
Не кабетку — змяю.

Ядзя нават артысткай

У Варшаве была
Перад тым, як да свата
Выхаванкай пайшла.

Ёй са сцэны, казалі,
Давялося сысці
З той прычыны, што, нібы,
Лепш іграла ў жыцці.

А цяпер праганяе, —
Кажуць, — сват яе прэч.
Гоніць?.. Не! Тут другая,
Далікатная, рэч.

Сват не гоніць, а жэніць.
Ёсць маёр халасты,
Ашчасліўціць рашыў яго
Сват яго залаты.

Дзесяць тысяч грашыма,
Вось — вяльможны пасаг.
Дзесяць тысяч мядзведзяў
Тут-бы здохла ў лясах!

Тут, калі-б уваскрослі,
То з дубінай на ўсіх,
Дзеля шлюбу такога,
Сам пайшоў-бы жаніх.

А пярсцёнкі, браслеты,
Што дарыліся ёй!..—
Пан маёр задаволен
Пакаёўкай такой.

Век-бы Ядзі на сцэне
Гэткіх перлаў не мець.
Ён прыехаў. Ад шчасця
З ног не падае ледзь.

З ім прыехала Ядзя
На адведы, здалёк,

Каб зірнуць адным вокам
На мядзвежы куток.

Падабалася ўсё ёй.
А за што? Не сакрэт:
Дом — за утульнасць, а сад —
За вясковы свой цвет.

Падабаўся за тое
Гаспадар, што стары, —
Гаспадарыць над ёю
Будзе тут да пары,

А служанка старая —
За старыя гады,
А Цімох— за яго
Маладыя гады.

Загадала служанцы пайсці па ваду,
А Цімоху — пайсці пагаліць бараду,

Апрануцца ў маёра гарнітур стары
І прайсці паказаць ёй палі і бары.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Падабаецца ў нас?—Падабаецца ў вас.
...Жнівень месяц — вяселля прызначаны час.

Пакідала маёра жаданая госця:
— Мілы друг!—у вачах яе мора мілосці,

Абпаліла шчаку пацалункам... — Пара,
Я чакаю вас!.. — і пакаціла з двара.

Як зірнуў ён на шлях, як згадаў пра пасаг,
Зазвінела ў маёра вяселле ў вушах.

Час ляцеў. Гэту срэбную музыку скрозь
Чуў маёр. Вось і жнівень настаў. Але вось,

Яшчэ госці на баль не запрошаны ўсе,

А ўжо сына Шыпшынскаму жонка нясе.

Ды не тая, збіраўся да шлюбу з якой,
А другая, якую прагнаў ён зімой.

Стася зноў у зімоўніку з братам сядзіць.
...А ў вушах у маёра вяселле звініць.

— Гоніць прэч. Да яго-б не прыйшла я ў бядзе,
Але з дзіцем няма мне работы нідзе.

Я прашу не бацькоўскае чэсці тае
Ад яго. А работы. А ён — не дае.

Ён нічога не помніць. Быў, кажа, п'яны.
Як вы ўсё забываеце лёгка, паны!..

Як вязаў ты вяроўкамі рукі мне, пан,
Хай-бы зрок завязаў табе вечны туман.

Брат, ці чуеш, ён кажа, што сын гэта твой?
Пагражае ён гвалтам жаніць нас з табой.

Хоча ён і цябе, родны мой, загубіць.
...А вяселле звініць, а вяселле звініць.

— Я сказала яму, — з вірам жэніш мяне,
А ад сына свайго не пазбавішся, не.

Буду, пане, ляжаць я пад вірам крутым,
А твой сын на парозе праклятым тваім.

Пан жаніў нас, ты чуеш?

— Жаніў, не жаніў,
Толькі, Стася, не пан я, і я не забыў,

Як сядзела ты ноччу і днём нада мной
У той час, як мяне смерць жаніла з зямлёй.

Пан прагоніць цябе — я з табою пайду.

Не пушчу цябе ў вір, у нямую ваду,

Смерць не зможа цябе з чорным вірам жаніць.
...А вяселле звініць, а вяселле звініць.

Стасі сын захварэў. Спіць ужо вечным сном.
Як ён мог не заснуць, калі спаў пад дажджом,

Пад расяным кустом, у халодным рыззі,
Есці ў неба прасіў пры дарозе ў гразі?..

Жыць на гэтай зямлі хіба мог ён, калі
Грудзі матчыны даць малака не маглі?

Хіба мог ён тут бачыць шчаслівыя сны,
Калі бацька жадаў яму толькі труны,

Калі сына свайго бацька ў дом не прыняў,
Дом асобны зрабіць для яго загадаў?..

Склаўшы рукі, у бацькавым доме ён спіць.
А вяселле звініць, а вяселле звініць,

Шле нявеста па пошце маёру пакет,
Што гірыехаць за ёй і за рэчамі след,

Хай прыедзе той парабак. Значыць — Цімох.
Сам каня пан маёр для нявесты запрог.

Вось Цімох ужо лейцы трымае ў руках.
Стася з ім. Твар служанкі былой у слязах.

«Хай пад'едзе»... — рашыў не пярэчыць маёр,
Сам вароты адпёр, сам вароты запёр,

Рукі крыжам злажыў: — Божа мой літасцівы!
І глыбока ўздыхнуў. Зноў жаніх ён шчаслівы.

Хутка пыл па шляху закурыць, закурыць,
Хутка ў доме вяселле яго зазвініць.

Ноч настала. Варочаўся з боку на бок:
Як там парабак, дзе ён? А што, як уцёк?

Раптам думка: а што, як са Стасяй яны
Уцяклі? Аж падскочыў. Які-ж я дурны,

Божа мой!.. За няшчасцем, за шчасцем сваім
Я аб гэтым якраз не падумаў зусім.

Так і ёсць, божа, божа!.. Зусім я здурнеў —
Валацугу ў прыстойны гарнітур адзеў,

Думаў свата здзівіць, — хай убачыць, сардэчны,
Які ў пана Шыпшынскага парабак гжэчны.

А яшчэ — пераслаў з ім нявесце пакет,
Ён-жа з гэткім пакетам праедзе ўвесь свет,

Усю Рэч Паспаліту з канца ды ў канец.
Як віхор яго мчыць дзень і ноч жарабец.

Рад, напэўна, — такога не меў ён ніколі,
І смяецца, напэўна... Шукай ветру ў полі!

Ноч прайшла. Заявіць, ператрэсці шляхі!..
Божа, так пакараць, за якія грахі?!

За якія грахі?.. Тут згадаў аб адным
Ён граху, прамільгнула труна перад ім,

Рукі крыжам злажыў:—Божа мой літасцівы!
Выйшаў з дому на двор невясёлы, маўклівы,

З пуні вывеў каня. За нявестай яму
Трэба ехаць — прывозіць у дом самаму.

...А тым часам Цімох свой працягвае пуць,
Паліцэйскія, стрэчныя, чэсць аддаюць.

— Пану чэсць! — пальцы ломяць ажно казырок:
Хоць не надга паважны, а ўсё-ткі панок,

З ім — кабетка, служанка яго маладая,
Але-ж пекпая, чорт, хоць, як быццам, смутная.

Так і хочацца, бачачы смутку пячаць,
Чаго смутна?—спытаць, ды не зручна пытаць.

Трэці дзень у дарозе. Па карце яны
Адшукалі нарэшце закутак лясны —

Вёску Броды. Мінулі той лес, паплавы,
Ноччу хату знайшлі Кацярыны-ўдавы.

Двор пусты. На варотах запораў няма.
Хата дзверы гасцям адчыніла сама,

Запрасіла сама іх на ўслон — адпачыць,
Папрасіла сама іх агонь запаліць.

Але дзе гаспадыня? Быць можа, як след,
Растлумачыць сусед? Выйшаў з хаты сусед.

Як адказ, зорны шлях над хацінай пустой.
Сёння трэцюю ноч пад магільнай страхой

Гаспадыня ўжо спіць, а малы яе сын —
У суседа, бо ў хаце баіцца адзін.

Што за шлях, як той сои — ад хаўтур да хаўтур?
Лес здружыў іх, пад сковат зімовых віхур,

Пан жаніў, Кацярына ім хату дала,
А сіроцкая доля ім сына знайшла.

Чорны конь, што іх вёз, як пасаг — на двары.
Гэта чым не дары, для вяселля, сябры?

**7**

Едзе лета на двор на гарачым кані,
Хлеб вязе... Двор, вароты шырэй адчыні!

Двор, прымай ад людзей дарагія дары,
Хлеб, — як добрую памяць аб гаспадары.

Гэта дар яго сыну і жонцы-ўдаве.
— Кацярына жыве тут?—Ужо не жыве,

Сын жыве. — З вамі?— З намі.— Здымайце з калёс,
Людзі, хлеб, што для вас і для сына прывёз,

Забірайце хутчэй.—А чаму так, хутчэй?
— Каб хаця не наклікаць напасць на людзей.

— А якую, стары?—А такую напасць,
Што пасля праз мяне вам жыцця тут не дасць.

Не дай бог, — замяце вас у гэтым куце.
— Хіба зноў, што чуваць? — Зноў, таварыш, мяце,

Пыл мяце па шляхах, ад сяла да сяла.
— Пра Будзёнаўца, можа, што чуў? — Замяла.

— Што ты кажаш, стары!..—Ды хіба аднаго!
Замяла і нявіннага сына майго.

Незнаёмых, сынок, начаваць не пускай.
— А як раптам хто свой? — Свой? А ты адгадай,

Свой, ці не? Сын пусціў гэтак, думаў, што свой.
Гад назаўтра прывёў паліцаяў з сабой.

Кажа: —Тут начаваў. Сын: —Не быў ён у нас.
Гад тады, што-б ты думаў, палез за абраз,

Што вісеў на куце, а за тым абразом,
Што-б ты думаў, напісана карандашом, —

Каб яму да рукі карандаш той прысох:
«Начаваў. Комуніст. Прыгароўскі Цімох».

— Прыгароўскі Цімох? — Так, сынок. Чорны гад.
Верных нашых людзей ім загублена шмат.

— А які ён сабой? — Малады, з барадой,
Шрам на правай шчацэ, і — нагу валачэ.

— І нагу... валачэ? — Валачэ. Ну, бывай!
Незнаёмых, сынок, начаваць не пускай.

...Ноччу стук у акно.— Хто ? — А д дзядзькі таго,
Што прывозіў вам хлаб. Я — пляменнік яго.

На парозе — хлапец. На куце — каганец.
— Стася, чаркі нясі! Гэта-ж ён — твой ганец.

— Пачакай частаваць, брат. Шукаць я іду
Правакатара. Вып'ем пасля, як знайду.

Цэлы год ён, як з пашпартам, з імем тваім
Раз'язджае. Вясной, у павеце глухім,

У далёкім ад нас, тваім імем якраз
Выдаў ён парабкоў, кроў праліў. Нашу кроў.

А нядаўна і ў наш заявіўся павет.
З ім пабачыцца след. Вось табе — пісталет.

Спадзяецца ён, пэўна, што ты нежывы,
Што забіт. Пад страхой Кацярыны-ўдавы

Зброю гэту хавай, каб з памершых устаць,
Калі зойдзе к Цімоху Цімох начаваць.

— А які ён сабой?— Малады, з барадой,
Шрам на правай шчацэ.—А нагу валачэ?

— Валачэ. Можа, з'явіцца тут пад страхой,
Знаеш сам... — Знаю сам. Кроў змываюць крывёй.

...Ноччу стук у акно. — Хто? — А д дзядзькі таго,
Што прывозіў вам хлеб. Я—знаёмы яго.

На парозе Будзёнавец. Не замяла

Чалавека напасць. — Не запальвай святла.

Абняліся. — Ну вось і сустрэліся зноў.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Гаспадар,— кажа госць, — ці не час нам дамоў?
Я-ж табе абяцаў. Час ісці.

Той — маўчаў.

— Што-ж маўчыш ты? Як бачыш, я слова стрымаў.
Што ты думаеш?..

— Думаю я не аб тым.
— А аб чым-жа?—Аб пашпарце ўласным — двайным,

Аб крыві, што на ім. Як ісці мне дамоў,
Калі імем маім губяць тут парабкоў?

— Гэта праўда, Цімох, — не імя тваё гад,
А падданства совецкае ўзяў на пракат.

Слыў героем, адвагай здзіўляў ён людзей.
З дапамогай ахранкі, вядома, лягчэй

Стаць бясстрашным… Ён вызваліў члена ЦК
З пастарунка. Схітрыў: ашукаў дзівака.

Той — паверыў яму. Ну, а там ён — далей
Прабівацца пачаў. Што ні дзень, то — вышэй.

Яўкі выведаў, — верылі людзі яму.
Шмат каго, праз яго—за парог, ды ў астрог.

Ды і зараз, якраз — чорных арыштаў час.
Яўкі ўсюды правалены. Толькі да нас

Правакатар, да Бродаў, яшчэ не дайшоў. —
Не дайшоў, ці збаяўся асін і віроў,

Гэта ўжо не цікава. На цэлы павет

Мала нас засталося. Ды вешаць не след

Галавы, пад страхой Кацярыны-ўдавы.
Час за працу. Навалай раскіданы дом
Час, таварыш, збіраць нам... З чаго-ж мы пачнём?

Як ты думаеш, браце? —Эх, ведаць-бы, дзе
Правакатар?—У Вільні цяпер. На су дзе.

— Што ён робіць там?—Чорную справу, Цімох,
Тых, што выдаў суду — пасылае ў астрог.

— Вось і трэба, відаць,
Нам з суда пачынаць.
Суд, дык суд. Бой, дык бой.
Кроў змываюць крывёй.

— Раіць, браце, лягчэй,
Чым зрабіць, — кажа госць. —
Але дзе ўзяць людзей?
— Людзі ёсць.

— Людзі ёсць?
Вельмі проста паслаць
Нам людзей на бяду,
Ды не проста прыняць
Смерць ім.
— Сам я пайду.

— Сам?
Маўчанне. Яны
Абняліся без слоў.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Ты яго не заб'еш,
Я заб'ю. Кроў за кроў.
— Кроў за кроў!
— Так за так,
Суд дык суд — наш адказ.
Не спяшайся, аднак.
Рызыкоўны для нас

Гэта крок... Не сакрэт,
Што параіцца след
Мне спачатку. З кім след.
Ты чакай мяне... Тут.

---

Хутка бой. Хутка суд.

Час настаў — да яго
Госць. Ад дзядзькі таго.

Перадаў яму госць
Адрас віленскі. Ёсць
Грошы ўжо на білет.
Ехаць заўтра. Ледзь свет.

Знаў Цімох — што чакае
Яго на судзе.
Знала Стася — куды
І на што ён і дзе.

Дзень. Апошні іх дзень!
Ён і ў Стасі — адзін
І ў Цімоха — адзін.
Небагата гадзін

Час адвёў ім на шчасце, —
Каб разам ісці
Ім па лесе шумлівым,
Нібы па жыцці.
Што за шлях, як той сон —
Ад хаўтур да хаўтур?..

Лёс здружыў іх,
Пад сковыт зімовых віхур,
Пан жаніў, а глухая
Лясная мяцель
Лісцем шлюбную іх
Засцілае пасцель...

Лес шумеў, замятаў

След іх лісцем сухім.
Подых лісця Цімох
Нёс на твары сваім,
На вачах — павуціння
Туманную ніць.
Ясны дзень. Лес і лес.
...Як хацелася жыць!

---

Ноччу ў Вільню прывёз яго хуткі цягнік.
...Вільня, быццам ракушка, якую ляднік,

Альбо мора Балтыйскае з часаў былых
Людзям кінулі тут — між узгоркаў сваіх,

З-за якіх, выгінаючыся, як змяя,
Выпаўзае на свет светлы смоўж — Вілія.

Вільня — горад-ракушка сярод гарадоў:
Безліч вулачак блытаных, вузкіх хадоў,

Дзе заўжды, як пральюцца з нябёсаў дажджы,
Ручаінкі паўзуць, як малыя смаўжы;

Дзе людское жыццё, праз глухія хады,
Льецца шумам, падобным да шуму вады.

Сшылі ў Вільні гарнітур краўцы для яго.
Люба ў люстра глядзець на сябе самаго.

Ладна сшыты! Другога такога не мець,
Сам фасон выбіраў — на жыццё і на смерць.

Сам плаціў за пашыў. Заўтра ў ім — пойдзе сам
Паказаць сябе іншым краўцам і шаўцам.

Па завулках, па плошчах цякло, як вада,
Шумнай Вільні жыццё. Змрочны дзень. Дзень суда.

Цвёрдым кронам замысленых справай людзей
Падыходзіў з партфелем Цімох да дзвярэй.

— Пану чэсць! —казырнуў паліцэйскі ў дзвярах,
Не яму, а партфелю таму, што ў руках.

Перайшоўшы судовае залы парог,
Выбраў месца сабе на праходзя Цімох.

Сеў. На лаве падсудных — дзядзькі і хлапцы.
Сёння шыць будуць тут ім краўцы і шаўцы

На дзяржаўныя сродкі, па просьбе паноў,
Спецыяльны гарнітур на многа гадоў.

Грозным імем аформіў заказ пракурор.
На турэмны адгэтуль пагоняць іх двор,

Пан пшэдоўнік па камерах іх развядзе,
Пан турэмшчык замкне... Суд ідзе. Суд ідзе.

Суд ідзе. Сведка той — малады, з барадой —
Да стала падыходзіць, нагу валачэ.
Шрам на правай шчацэ...
Крыж цалуе. Прысягу ўрачыста дае, —
Гаварыць толькі праўду. Прысягі тае

На судзе не парушыць ён, — сведкаю бог.
— Сведка, як вас завуць?
— Прыгароўскі Цімох.
— Скуль вы родам?
— Совецкі. Адтуль, з-за мяжы.
Сведчу праўду. Прысягу даваў на крыжы.
Як набожны, — бо зараз я не комунар, —
Сведчу тут, што сусветны распальваць пажар
Быў насланы сюды я, людзей бунтаваць,
На паўстанне ўздымаць іх. Яны тут сядзяць
Перад вамі. Іх пяць.
— Вы прызналі ўжо іх,
Вы іх знаеце ўсіх?
— Як пяць пальцаў сваіх.

...Суд. На лаве падсудных дзядзькі і хлапцы:

Беларусь!, палякі — нядолі касцы.

Гэй, ці сыдуцца толькі з канцамі канцы
Гэтых строчаных белымі ніткамі спраў?
Матар'ял падазроны Даўбніцкі прыслаў,

Зараз ён распаўзацца пачне па рубцах!..
Новы сведка ўстае. Пісталеты ў руках.

На крыжы не даваў ён прысягі ў судзе,
Сам ён крыж свой нясе... Суд ідзе, суд ідзе!

Пісталеты ў руках. Суд чакае. Замёр
Той, што ў зале, народ. Пабялеў пракурор,

Плечы ўгнуў пан суддзя. Пачарнеў, як зямля,
Правакатар Сцяпан... Перад смерцю, халуй,
Крыж яшчэ раз цалуй!..

Да сумленных людзей больш не зойдзеш у дом,
Здрады знак не накрэсліш ты карандашом,

Не схаваеш імя сваё за абразы!..
Залпам двух пісталетаў чатыры разы

Слова праўды гучыць у ілжывым судзе.
Суд ідзе! Суд ідзе!.. Суд ідзе! Суд ідзе!.. —

За падсудных, чыя маладосць пад замком,
За бацькоў, чыя старасць скавана ярмом;

За ўсіх тых, што ў турме, за ўвесь край, што ў ярме,
За ўвесь люд, што у бядзе... Суд ідзе, суд ідзе!

Пракурор — пад сталом. Пан суддзя — пад сталом.
Сведка іхні ляжыць на падлозе пластом.

---

Выбег з залы, праз дзверы глухія, Цімох,
На каменных прыступках пад кулямі лёг.

Ён ляжаў у крыві. А жыццё яго міма
Прад вачыма плыло, як гара Гедыміна.

У вялікай ракушцы сціхаў, як вада,
Шум завулкаў глухіх, блізкі гоман суда.

...Тую вуліцу, дзе ён пад кулямі ўпаў,
Горад імем ягоным назаўтра назваў, —

Невядомай рукой напісаў на дамах
Назву новую, назве ранейшай на страх.

На той вуліцы, дзе ён упаў, — раніцой
Сцяг схіліўся чырвоны з жалобнай каймой.

Па той вуліцы, дзе ён праліў сваю кроў,
Горад памяць яго ушаноўваць ішоў.

Горад вывеў з дамоў дзесяць тысяч людзей,
Што жывым яго бачыць не мелі надзей.

**8**

У шпіталі ляжаў. Дзесяць ран, дзесяць куль.
Думаў, трапіць у морг давядзецца адтуль.

Дзесяць ран. Каб памерці, — хапіла-б адной,
А ён выжыў. Цімоха судзілі вясной.

Пад аховай салдат, са шпіталю таго
На насілках прыносілі ў залу яго.

Там пытаў пракурор: — Хто на смерць асудзіў
Чалавека, якога ў судзе ты забіў?
Хто рашыў так?..

Падсудны адказваў панам:
— Правакатар на смерць асудзіў сябе сам.

— Хто паслаў цябе, — суддзі пыталіся там, —
На забойства? — Ніхто. Я забіў яго сам.

— Хто даў зброю табе?.. Ён адказваў:—Народ.
Суд, падсудным пазбаўлены лішніх турбот,

Свой кароткі прысуд вырак вязню вясной. —
Смерць стаяла над ім, пагражала пятлёй

У турме, дзе ён жыў ад зары да зары...
Мелі клопат сардэчны аб ім жыхары

Іншых камер... Чаму? Зразумела чаму.
Прысылалі па пошце турэмнай яму

Тэлеграмы, лісты, як падтрымку ў бядзе.
З іх дазнаўся ён: стрэлы яго на судзе,

На ілжывым судзе, да другіх гарадоў
Дакаціліся ўжо, выйшла ўжо з берагоў

Абурэнне: рабочыя Польшчы ўзнялі
Голас свой, каб яго ратаваць ад пятлі.

Ведаў вязень: пратэст заявіла Масква.
Сонца крышыць ільды, прабівае трава

Камень прагай святла, праўда — мур. Кожны дзень
Нёс, па пошце турэмнай, надзеі прамень.

А за днём ноч ішла... Крымінальнікі нож
У парашы Цімоху праслалі. Усё-ж

Нож ёсць нож. Калі зойдуць выконваць прысуд
Кат, суддзя, пракурор, — нож спатрэбіцца тут.

Злосць вастры, нож тачы. Ён не спаў уначы,
Слухаў, можа, нясе ўжо турэмшчык ключы.

Так штоноч, — да свістка на турэмным двары,
Да пабудкі. На нарах, у змрочным муры,

Адсыпаўся ён днём... Ведаў вязень, сплючы:
Днём не прыйдуць, бо вешалі — толькі ўначы.

Ад свістка да свістка ён пачаў вымяраць
Час жыцця. Смерці час. Жыць, ці згубы чакаць.

Смерць марудзіла. Справа яго на разгляд
Адаслана ў Варшаву. Ужо лістапад

Надышоў. Ён чакаў. Дзень ужо карацей,
Ноч даўжэй. Мур змрачней. Як там? Хоць-бы хутчэй

Знаць свой лёс. Але вось пан турэмшчык прынёс
Навіну, адамкнуўшы глухую сцяну.

— Ну... — сказаў ён, — пазбыўся ты, ўрэшце, пакут,
Суд вышэйшы адбыўся. Зацвердзіў прысуд.

Усміхаўся турэмшчык: — Ну, што, камісар,
Дачакаўся?..
Маўклівы, падняўся ён з нар,

Заспяваў. З вуснаў песня зляцела сама:
«Гэта ёсць наш апошні!..» Прыціхла турма.

«Гэта ёсць наш апошні, смяротны наш бой...» —
Падхапіў тыя словы сусед за сцяной.

— Змоўкні!..

Позна ўжо. Словы мінулі парог
Адзіночкі. Як полымя, змрочны астрог

Ахапілі, — людзей падымаючы з нар.
— Годзе пець! Я няпраўду сказаў, камісар.
Жартаваў я...

Не варта было жартаваць,
Мур спявае. Таварыш ідзе паміраць.

То спяваюць сябры: украінец, паляк...—
Мовы розныя, родныя словы, аднак.

— Годзе пецьǃ.. Заўтра выйдзеш на шпацыр, пся крэўǃ
Вось прысуд. Даравана жыццё. Зразумеў?

Даравана?.. А песню спяваюць сябры.
Хай гучыць, хай гучыць гнеўны спеў у муры.

Суд вышэйшы жыццё дараваў яму? Неǃ
З ласкі панскай вісець-бы яму на сасне.

Ён мільёнам людзей абавязан жыццём.
Песня еднасці мур ахапіла агнём.

— Вар'ят, мільч. Даравана жыццё. Зразумеў?
...А за вокны ляцеў вязняў полымны спеў.

Ну, цяпер ён не госць. Сталы ў доме жыхар:
Цёмнай камеры, нар пажыццёвы ўладар.

...За акном, што ні год, тых-жа дрэў лістапад.
Дні, як лісце. Ляцяць, без звароту назад.

Скроні вязня крануў сівізною палон.
Дзе Будзёнавец? Чуў, што ў Іспаніі ён.

Стася дзе? Не чутно. Сэрца рвецца з-за крат.
Мур глухі, не ўцячы. Тых-жа дрэў лістапад

За акном, што ні год... Не сціхае вайна:
Не ў Мадрыд ужо едзе, а ў Прагу яна,

Бомбы Крупа к французскай граніцы нясе,
Гоніць танкі за Рэйн... Хто далей на чарзе?

Што рабіць, як тады ратавацца з бяды,
Калі з'явіцца новы турэмшчык сюды?

Год за годам ішоў. Мур — на многа гадоў...
Але вось, рантам вестка: ён едзе дамоў.

...Ноч. Маўклівы перон. Кратаваны вагон.
Хоць не верыў, аднак — ехаў ён на кардон.

Там абменены будзе Цімох. На каго?..
Вось і арка. Кардон... Дзе ён бачыў яго,

Гэты змрочны, абпалены полымем твар?
Хто яго абпаліў: грозны выбух, пажар?

Дзе ён бачыў яго, гэты твар, твар вайны?
Пункт абменны. Мяжа... Разышліся яны:

Аднаго вёў баец, а другога — салдат.
Разышліся: Цімох і Даўбніцкага брат

На граніцы двух светаў, на сцежцы адной
Каб сысціся на ёй калі зноў будзе бой.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Родны бераг, зямля!.. На бацькоўскі парог,
Як марак пасля буры, вяртаўся Цімох.

Колькі год сапраўды морам чоркай бяды
Плыў, ляцеў ён на ветразі сэрца сюды.

Не бяда, што кранулі яго валасы
Сваёй пенай сівой штормаў лютых часы,

Што ў яго на губах солі смак, не бяда!
Гэта слёзы салёныя, а не вада...

Паравоз абганяючы, рвецца дамоў
Сэрца вязня па радаснай хвалі сцягоў,

Што адзначыць зварот яго выйшлі, як на парад.
...Родны край сына роднага вырваў з-за крат.

---

Пушча — гэта плямёны асілкаў-дубоў,
Што сышліся на вечныя сходкі дуброў;

Што шумяць нам з вячыстай сваёй вышыні
Пра мінулыя дні, пра наступныя дні;

Што маглі-б скласці нам з назіранняў сваіх
Кнігу ўласную аб пакаленнях людскіх,

Аб іх шчасці кароткім, аб доўгай бядзе...
Зноў Цімох пагранічнаю пушчай ідзе.

Грозны час. На зямлі не змаўкае вайна:
Дакацілася ўжо да Варшавы яна,

Грудзі Кракава бомбамі Крупа трасе,
Нішчыць мірных людзей... Хто далей на чарзе?

Ён ідзе... Не змаўкае вайна на зямлі.
Гэй, куды ён ідзе і чаму у шынялі?

Што тут робіць Цімох, чым займаецца ён?
У пяхотным палку, што вартуе кардон,
Неспакойны кардон, радавым служыць ён.

Пагранічныя сосны шумяць угары.
Размаўляў ён з Марынай сягоння ў бары.

Ён ідзе... За дубы ўжо схавалася школа,
Што замкнула, сустрэчай і ростанню, кола

Вандраванняў яго, кола шляху таго,
На якім людзі шчасця шукалі свайго.

Тут, у грозную ноч, пачынаўся іх шлях.
Шмат гадоў навальніца грыміць у вушах,

Чутны стрэлы, стаіць прад вачыма імгла
Той граніцы, што з гулам па сэрцах прайшла.

Ён дарогай ідзе. Як лісты на дубах,
Словы горкай размовы звіняць у вушах.

— Я чакала цябе, — так казала яна, —
Прамінула зіма, праляцела вясна,

Цэлы год. А як ты не вярнуўся, праз год,
Я рашыла — забіт. На далёкі Усход

Я паехала, — гэтак было мне лягчэй,
Ад граніцы далей: там вучыла дзяцей.

А пасля, а пасля — праз чатыры гады
Зноў вярнулася я ў нашу пушчу, сюды.

Вось і ўся мая споведзь. Што скажаш мне ты?
...З пушчы верасень гнаў на дарогу лісты.

Што ён мог ёй сказаць?.. Сем мінула гадоў!
Колькі іх, вось такіх, адшумела лістоў —

Пад нагамі яго, за турэмнай сцяной,
Над яго, пасівеўшай ужо, галавой?..

У чырвонай касынцы, з пытаннем сваім,.
Як юнацтва, стаяла яна перад ім,

З тым-жа позіркам светлым трывожных вачэй,
З тым-жа сэрцам, — як помнік ягоных надзей, —

Сярод ціхіх, ахутаных восенню, дрэў.
Ён маўчаў. Што сказаць ёй?..

— Як ты пастарэў,
Як змяніўся, Цімох!

Што сказаць?.. Хіба мог
Лес падняць адшумеўшае лісце з дарог?

Не вярнуць яму зноў незваротных гадоў,
Не забыць, хай ліхой, але — долі сваёй,

Не закрэсліць той шлях — ад хаўтур да хаўтур,
Не забыць — ні людзей, ні завей, ні віхур;

Не закрэсліць жыцця, што было, хай цяжкім,
Але ўсё-ж для яго, як сваё, дарагім.

Праўду ўсю расказаў. Ён ужо — не адзін,
Расказаў ён пра Стасю, пра тое, што сын

Нарадзіўся даўно ў іх. Пра сына яму
Стася некалі вестку прыслала ў турму.

Дзе цяпер яна з сынам, — не ведае ён.
Іх турма разлучала, а зараз — кардон,

Ён усё ёй сказаў у бары векавым.
Сем гадоў — як мяжа паміж ёю і ім,

Паміж сённяшнім днём іх і днём іх былым.
Ён усё ёй сказаў...
— Не прымі за дакор
Мае словы, Цімох. Помніш бор, панскі бор,
Поле панскае?..
— Помню.
— А помніш ты наш
Дом няўдалы — шалаш,
Дождж, і ноч, і шалаш?..
Колькі буду я жыць, мне яго не забыць.
Але лепей не помніць, сам ведаеш ты.

...З пушчы верасень гнаў па дарозе лісты,

Бег чырвоны лісток за чырвоным лістком,
Быццам сэрца за сэрцам, — пяском, вераском...

Закружыў іх віхор сярод іншых лісткоў,
Паімчаў, — разлучыў сэрцы блізкіх сяброў,

Толькі пыл закурыў, ды халодны пясок...
Ці не час класці ў зруб наш апошні вянок,

Хату ўжо накрываць, як гавораць, страхой?
Жыць Марыне з Цімохам не суджана ў ёй.

Іхні луг здраталі чужыя сляды,
Чорны баль свой на ім адгулялі гады,

Шротам снежным завеі яго замялі...
Свет бязмежны, скажы нам, калі ўжо, калі

Часу сівер глухі
        не загубіць надзей,
Веснавыя лугі
        расцвітуць для людзей
Дыванамі любві?..
        Свет, калі адгрыміць
На зямлі час граніц,
        тых балючых граніц,

Што на Поўдзень і Поўнач, на Захад і У сход
Жорсткай рысаю дзеляць адзіны народ;

Што па землях В'етнама, Карэі прайшлі,
Што праходзілі ўчора па нашай зямлі?
Свет, калі ўжо, — яшчэ раз спытацца дазволь,
Адляціць гэты сон, адбаліць гэты боль!?
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У бары-гушчары разышліся сябры,
Як дарожка лясная і езджаны шлях,
Як касынка і кулямі стрэляны сцяг.

Пакідаў гэты бор, гэты боль свой Цімох,
Як пары незваротнай апошні парог.

Бор, аб чым ты гудзіш, шлях, куды-ж ты вядзеш?..
Перайшоўшы жыццём смерці чорны рубеж,

Абавязаны людзям збавеннем сваім,
Ён даўно ўжо звязаў лес свой з лесам людскім.

Не жыве ён, калі
        гінуць вязні ў пятлі
На зямлі яго сына,
        сіроцкай зямлі.
Ён не вольны, пакуль
        чуе стогны адтуль, —

Покуль рукі народ
прасцірае на ўсход.

Абавязаны цэламу свету жыццём,
Ён ідзе ў сваю часць пехацінцам-байцом.

Пушча грозна гудзе. Будзе суд. З пушчы той
Ён ідзе, — на судзе быць не сведкам — суддзёй.

---

Пушча. Ноч. Вераснёўскія зоры ўгары.
Ноч... Ды толькі Цімох не засне да зары.

Ён не можа заснуць. На світанні ў паход! —
Прасцірае на ўсход з Польшчы рукі народ.

Там вайна, там — фашысты, там людзі ў бядзе.
У астрозе — сябры... Стася. Дзе яна, дзе?

Можа ў Бродах? А можа, з Мазурскіх балот
З сынам гоніць вайна яе зараз на ўсход?

Па слядах яе новы турэмшчык ідзе,
Сотні тысяч братоў і сяброў у бядзе.

Ён нядаўна адтуль... Ён не вязень, салдат.
Ен павінен, павінен вярнуцца назад.

Не адзін ён... На захад глядзяць з-за кустоў
Сотні тысяч вачэй, сотні тысяч байцоў...

Пушча грозна гудзе, суд ідзе. Суд ідзе!..—

За тых вязняў, чыя маладосць пад замком,
За бацькоў, чыя старасць скавана ярмом;

За тых матак, чый шлях — свет, як замяць, глухі,
Беспрытульная доля, зямля без страхі;

За дзяцей тых, чый лес — нараджацца ў гразі,
Есці ў неба прасіць, паміраць у рыззі;

За ўсіх тых, што ў турме, за ўвесь край, што ў ярме,
За ўвесь свет, што ў бядзе... Суд ідзе, суд ідзе!.. —

...На світанні глыбока ўздыхнула зямля.
Скалануўшыся, лісце зляцела з галля,

Пагранічная пушча вакол загула.
Ад капца да капца, ад сяла да сяла

Пакацілася рэха грымотнае ўдаль,
Засвяцілася скрозь навальнічная сталь, —

Гэта Верасень з пушчы чырвонай павёў
Нэ парог Белай Вежы чырвоных байцоў.

То не лісце з дуброў
шляхам Верасень гнаў, —
Сэрцы родных братоў,
пушчу з пушчай злучаў;
Нёс не восені тло, —
мір лясам і палям,
Курным хатам — святло,
кветкі — змрочным лугам;
Гнаў мяжы чорны цень —
змрок праклятай начы,
Свой Семнаццаты дзень,
як вясну, несучы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дня і ночы граніца — уперлася ў Буг.
— Гэй, Буланы, выцягвай з аблогі свой плуг,

Час табе на папас, адпачыць табе час
Перад той паласой, што наперадзе ў нас.

Грозны час. На зямлі не сціхае вайна.
Хто ў яе на чарзе?.. Танкі з крыжам яна

Прыкаціла на Буг, пераводзячы дух.
Чорным вокам вайна пазірае ў твой Буг,

Брод шукае сабе, — каб змяёю траншэй
І агнём па зямлі пакаціцца. Э-гэй,

Стой, Буланы! Вушамі, браток, не стрыжы,
Не палохайся гэтай крыкавай мяжы.

Адпачні, і за — працу!.. Хай нашы плугі
Пракладаюць наступным аратым шляхі,

Пракладаюць дарогу народам зямлі.
Прыйдзе час дарагі, прыйдзе дзень той, калі

Людзі згоняць з планеты пракляцце начы.
Верны друг, дружбы плуг, для дабра аручы,

На свабоднай, вялікай сваёй паласе
Заарэ межы ўсе, заарэ межы ўсе!

# ЗМЕСТ

## ВЕРШЫ, БАЛАДЫ

**ГРОЗНАЯ ПУШЧА**
**(вершаваная хроніка)**

